
Анна Бжазоўская →3

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714



Гарадоцкім Навінам 25 →8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3331) Год LXV | Беласток, 15 сакавік 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Расказы спадабаліся!

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Расказы многіх удзельнікаў **XXI Конкурсу беларускай гавэнды — Гайнаўка-2020** спадабаліся публіцы і журы конкурсу, аб чым сведчылі апладысменты і эмоцыі гасцей сабраных у актавай зале Агульнаадукацыйнага ліцэя з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Побач расказчыкаў і іх настаўнікаў аповеды на роднай мове слухалі госці мерапрыемства, у тым ліку бацькі, бабулі і дзядулі выступоўцаў, белліцэісты і настаўнікі. Конкурс расказчыкаў адбыўся якраз 21 лютага, у Дзень роднай мовы, калі арганізуюцца шматлікія мерапрыемствы і акцыі з мэтай падкрэсліць значэнне роднай мовы ў жыцці народа. На гэта звярнуў увагу арганізатар конкурсу, настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі, які адкрыў мерапрыемства.

Частку расказаў выслухалі госці конкурсу — намеснік бургамістра Гайнаўкі Ірыней Кендысь, віцэ-стараста Гайнаўскага павета Іаанна Койла і начальнік Аддзялення грамадскіх спраў Гайнаўскага старства, якое курыруе сярэднія школы, Ніна Лукасік, былая віцэ-дырэктар Гайнаўскага белліцэя. Дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук і яго намеснік Дарыюш Мусюк сачылі за выступамі ўдзельнікаў конкурсу, а пасля падвядзення вынікаў разам з членамі камісіі ўручылі пераможцам дыпломы і ўзнагароды.

— Першы раз у Конкурсе беларускай гавэнды выступілі вучні Гімназіі імя Францыска Скарыны ў Вільні і Непублічнай пачатковай школы імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Прадстаўнікі абедзвюх школ запрэзентаваліся на высокім узроўні, таксама як і многія іншыя ўдзельнікі. Конкурс гавэнды арганізуем па пятніцах і ў гэтым годзе так добра склалася, што была магчымасць зладзіць яго 21 лютага, у Дзень роднай мовы, — сказаў Ян Карчэўскі, які арганізуе конкурс ад імя Аб'яднання «Наша школа», што дзейнічае пры Гайнаўскім белліцэі.

— Цікавымі былі расказы ва ўсіх трох катэгорыях конкурсу, але найбольш спела і займальна запрэзентаваліся вучні класаў VI-VIII. Лепшыя расказчыкі конкурсу выказваліся на высокім узроўні, патрапілі зацікавіць сваімі аповедамі публіку, трымаючы непасрэдны кантакт з залай, — сказаў член журы, пісьменнік і радыёжурналіст Радыё Рацыя Міхась Андрасюк.

Член камісіі Іаланта Грыгарук, настаўніца-метадыст беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Навакорніне звярнула ўвагу на высокі ўзровень выступаў многіх канкурсантаў, а асабліва Арцёма Арбатэра з Гімназіі імя Францыска Скарыны ў Вільні, які заняў першае месца ў катэгорыі наймалодшых вучняў. На цікавыя дыялектныя расказы звярнула ўвагу таксама член камісіі Ірэна Ігнатовіч, белліцэйская настаўніца-бібліятэкар. Вучань Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы Барташ Яканюк, які заняў першае месца ў катэгорыі старэйшых вучняў пачатковых школ, займальна выступіў з расказам «Нэ забывайтэ роднай мовы» і са мной свабодна размаўляў па-свойму.

— Я даўно пачаў вучыцца размаўляць на роднай мове, так як гаварылі мае продкі.



Арцём Арбатэр з Гімназіі імя Францыска Скарыны ў Вільні — першае месца

Спачатку гэта слабавата атрымлівалася, але пазней стаў я гаварыць штораз лепш і зараз магу свабодна гаварыць па-свойму. Я сам пачаў рыхтаваць расказ «Нэ забывайтэ роднай мовы», а пазней мне дапамагала мама. Распавёў я пра свае моманты сутыкнення з нашай мовай, — заявіў Барташ Яканюк.


Марыя Валосік з Пачатковай школы ў Белавежы — першае месца

Анна Яканюк пахваліла выступ свайго сына Барташа. Дабавіла, што яго цікавяць не толькі свае мова і традыцыі, але таксама праца ў полі. Навучыўся ён вадзіць трактар, араць і выконваць іншыя сельскагаспадарчыя працы. Гасцей конкурсу зацікавілі расказы вучняў з Белавежы на мясцовым дыялекце беларускай мовы.


Гайнаўская белліцэістка Малгажата Галёнка — першае месца

— Я запрапанавала сваім вучаніцам расказваць на гаворцы і ім гэта спадабалася. Мы звярталі ўвагу на асаблівасці мовы, на якой раней паўсюдна гаварылі жыхары Белавежы і наваколля, — сказала Анджаліна Масальская, настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Белавежы.


Барташ Яканюк з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы — першае месца


Мікола Абрамюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку — першае месца

— Мы рады, што гаварылі на сваёй мове, — заявілі Марыя Валосік, якая ў катэгорыі старэйшых вучняў пачатковых школ заняла першае месца і яе сяброўка Марта Хілецкая, якой камісія прызначыла другое месца.

Выступы расказчыкаў традыцыйна пачалі наймалодшыя ўдзельнікі конкурсу. Па-майстэрску першым выступіў Гаўрыіл Якімюк з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку і, як пасля высветлілася, заняў другое месца ў катэгорыі малодшых вучняў пачатковых школ.

— Нам асабліва спадабаўся цікавы расказ нашага ўнучка на роднай мове, — заявіў Рыгор Якімюк, які многа гадоў разам з жонкай спявалі ў беларускім калектыве «Чыжавяне».

Другім нестандартна выступіў, узбагаціўшы аповед малюнкамі, Караль Андрасюк з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, які заняў другое месца. За яго выступам таксама сачыў дзядуля Міхал Андрасюк. Пазней займальным выступам свайго ўнучка Міколы Абрамюка з Кірыла-Мяфодзіеўскай школы ў Беластоку, які заняў першае месца ў катэгорыі старэйшых вучняў пачатковых школ, захапілася бабуля Ніна Абрамюк. Раней вучыла яна беларускай мове, а зараз апякуецца тэатральным гуртком у Непублічнай пачатковай школе імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку і падрыхтавала да конкурсу двух беластоцкіх вучняў.

— Магчымасці свайго ўнучка Міколкі я ведала, а Гаўрыілка Якімюк, з якім коратка працую, таксама аказаўся добрым расказчыкам. Я рада, што сёння нашы вучні маглі паказаць свае ўмеласці, бо гэта таксама вельмі добры досвед для пазнейшай актыўнасці ў школьным тэатральным гуртку, — сказала Ніна Абрамюк.

Першы раз у конкурсе расказчыкаў прынялі ўдзел вучні Гімназіі імя Францыска Скарыны з Вільні і запрэзентаваліся вельмі ўмела. Арцём Арбатэр, які заняў першае месца і Дньеля Песіна, якой камісія прызначыла другое месца, захапілі публіку і паказалі свае вялікія акцёрскія здольнасці.

— Мы спецыяльна рыхтаваліся да конкурсу расказчыкаў. Формула конкурсу нам спадабалася, паколькі такой у нас няма. Расказваючы тут, мы адчувалі сябе больш свабодна ў параўнанні з выступамі ў час дэкламатарскіх конкурсаў. Мы таксама пад вялікім уражаннем ад выступаў вучняў з Польшчы, — заявілі маладыя беларусы з Літвы Дньеля Песіна і Арцём Арбатэр.

— У нашай гімназіі вучацца звыш двухсот асоб і ў асноўным гэта беларусы. Сюды трапілі мы па запрашэнні настаўніка Яна Карчэўскага, які быў у нашай школе. Я рада выступам нашых вучняў у конкурсе расказчыкаў, паколькі патрапілі яны зацікавіць публіку, — сказала настаўніца беларускай мовы ў Гімназіі імя Францыска Скарыны ў Вільні Ніна Пяткевіч.

— Я яшчэ вучуся рыхтаваць сваіх вучняў да конкурсу расказчыкаў і рада, што яны дабіліся поспехаў, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Нарве Тамара Бялькевіч. Яе вучаніцы выступілі займальна і ў выніку Алівія Рэпка заняла другое месца, а Малгажата Ваўранюк — трэцяе.

— Я вучуся ў Пачатковай школе ў Навакорніне, але пазней хачу паступіць у Гайнаўскі беларускі ліцэй, дзе вучылася мая мама і мае сямейнікі, і пра гэта я расказвала, — заявіла Зося Раманюк, якая заняла другое месца ў катэгорыі старэйшых вучняў пачатковых школ.

Настаўніца беларускай мовы Пачатковай школы ў Міхалове Эмілія Грыка адзначыла, што яе вучні ахвотна рыхтуюцца да конкурсу беларускай гавэнды. Энтузіястамі конкурсу з'яўляюцца таксама вучні Марыі Крук з Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы і Людмілы Грыгарук з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, якія дабіваюцца поспехаў. Напрыклад, трэція месцы ў катэгорыі малодшых вучняў пачатковых школ занялі Шымон Юшчук з Пачатковай школы

чытайце ☞ 11



# Мэйнстрым ці медыя



Хачу сказаць адразу, гэты фельетон не пра мігрантаў. Мігранты ў ім згадваюцца ўсяго толькі дзеля прыкладу. Гэтыя няшчасныя людзі, якія патрапілі ў пастку паміж Грэцыяй і Турцыяй, зараз знаходзяцца ў абсалютна безвыходнай сітуацыі. Іх не пускаюць ні ў Еўрасаюз, ні назад. Яны кідаюць камяні ў памежнікаў Грэцыі, тыя адказваюць ім узаемнасцю ды паліваюць вадой з вадамётаў. Мясцовыя жыхары паляць падрыхтаваны для прыёму мігрантаў цэнтр і кажуць, што ім ужо хопіць іншаземцаў. Зрэшты, артыкул і не пра іх таксама. Артыкул пра сённяшнюю журналістыку. Пра так званыя мэйнстрым медыя.

Вось што пра іх гаворыць Вікіпедыя: „Асноўныя сродкі масавай інфармацыі — гэта тэрмін і абрэвіятура, якая выкарыстоўваецца для агульнай назвы розных вялікіх сродкаў масавай інфармацыі, якія аказваюць уплыў на многіх людзей, і адначасова адлюстроўваюць і фармуюць галоўныя кірункі думак”.

Дык вось, гэтым разам яны перасталі фармаваць гэтыя галоўныя кірункі. Яны проста паказваюць відэа з еўрасаюзнай мяжы і нечага чакаюць, каб даць маральна-этычную ацэнку ўсім, або хоць якім удзельнікам гэтай няпростай сітуацыі. А ацэнка можа быць дыяметральна супрацьлеглай. У кепскім святле могуць быць выстаўленыя як грэкі, што не пускаюць няшчасных людзей на сваю тэрыторыю, так і самі мігранты, якія сёння кідаюцца камянямі, каб іх пусцілі, а заўтра, калі іх пусцяць, будуць кідацца камянямі, каб іх кармілі. Дык вось, мэйнстрым медыя на сённяшні дзень яшчэ не вызначыліся, каго яны будуць дэманізаваць.

А вось зусім нядаўна ведалі. Проста спадарыня Меркель неяк ляпнула, што Еўрасаюз прыме ўсіх. І ўсе, хто хоць крыху ставіў пад сумненне завярэнні канцлера Нямеччыны, мэйнстрымаўскімі медыямі змешваліся з брудам як у японскай бетонамяшалцы. А зараз спадарыня Меркель маўчыць. Галоўныя медыя таксама. Чакаюць.

Лагічна ўзнікае пытанне, ці можна ў такім разе гэтыя галоўныя, багатыя і самыя вялікія сродкі масавай інфармацыі ўвогуле залічваць да журналістыкі? Можа пара ўжо проста і ясна даць ім азначэнне не як сродкам інфармацыі, а як сродкам прапаганды рашэнняў канкрэтных палітычных колаў. Зрэшты, мэйнстрымаўцы самік сябе ўжо даўно так называюць. Прыкладам, кажуць, не „я журналіст”, а я „ліберальны журналіст”.

Ліберальны журналіст! Што гэта такое, і з чым гэта ядуць? Я памятаю яшчэ з дзяцінства, што першае слова даражэй другога. І калі ў часы СССР казалі такое словазлучэнне як „камуністычная мараль”, то мараллю там і не пахла. Слова „камуністычная” было важнейшым, і ўсе ведалі, што толькі нешта камуністычнае можна называць маральным. Тое сама можна сказаць і пра „сацыялістычную законнасць”, дзе законнасці і духу не было, і пра „савецкую дэмакратыю”, дзе слова „дэмакратыя” было зусім непатрэбным.

Так і з „ліберальнай журналістыкай”. Такой журналістыкі не бывае ўвогуле. Ні ліберальнай, ні кансерватыўнай, ні якой іншай. Бывае або проста журналістыка, або, калі ліберальная, то прапаганда.

Зрэшты, нічога кепскага не бачу як у ліберальнай, так і ў неліберальнай прапагандзе. Паўсюдна ёсць каштоўнасці, якія варта прапагандаваць. Але не трэба гэта блытаць з журналістыкай. Журналістыка не чакае палітычнага рашэння ні канцлераў, ні каго іншага, каб даць ацэнку, ці некалькі розных ацэнак канкрэтным з'явам. Журналістыка не прапагандуе ідэі палітыкаў, а наадварот, прымушае палітыкаў прыслухоўвацца да сябе і карэктаваць свае дзеянні ў залежнасці ад напісанага і сказанага журналістамі.

Сёння ж мы бачым сітуацыю адваротную. І напэўна гэта ёсць адна з вялікіх праблем нашага часу. Бо інстытут сапраўды незалежнай журналістыкі ёсць адной з галоўных умоў пабудовы любой дэмакратыі.

Ну а мігранты не ведаюць, што ім рабіць. Не ведаюць і еўрапейскія палітыкі. Незалежная журналістыка ім бы падказала, прыкладам, што на роўні ААН трэба прыняць рашэнне, каб адказнасць за мігрантаў неслі тыя краіны, якія ваююць на іх тэрыторыі і прымушаюць людзей пакідаць родныя хаты. Ці іншую ідэю падала б.

Але сённяшнія палітыкі чытаюць толькі свае мэйнстрым медыя, якія самі і фінансуюць. А тыя ў адказ пішуць толькі тое, што іх фінансатары хочуць пачытаць.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Чарапашкай, нагой і... вокам

У СМІ толькі пра каранавірус. Яшчэ больш у іх, чым у чалавечых размовах: у дамах, на вуліцы, у грамадскім транспарце. Тэлебачанне, газеты і інтэрнэт-парталы пастаянна барабаняць пра яго. Магчыма, яны бачаць тое, чаго звычайныя людзі не бачаць? Ці, можа, яны бачаць толькі растучыя слупкі гледачоў і чытацкай аўдыторыі, а разам з гэтым свой прыбытак? Але ў сувязі з гэтым накручваецца чалавечая паніка. Яна яшчэ не разлілася на вуліцы, але мала хапае. На шчасце, цяпер звычайнага гледача ці чытача больш цікавіць новы спосаб прывітання палітычных чыноўнікаў — «чарапашкай» і локцем. Эх, дзе ж гэтыя часы сардэчных і слізкіх пацалункаў а-ля Брэжнеў? У Кітаі, кажуць, прадстаўнікі ўлады ветліва штурхаюцца нагамі на прывітанне. Яны рабілі гэта даўно, пад сталом. Прынамсі, зараз яны могуць афіцыйна імі пазабаўляцца. Можа, настаў час пашырыць гэтую «новую традыцыю» на сусветных палітычных салонах? Калі б прэзідэнты ЗША і Расіі, замест таго, каб нацкоўваць свае грамадствы, якія яны прадстаўляюць, штурхалі б адзін аднаго па галёнках, наколькі беспячнейшы быў бы свет! Чалавек ставіць разбурэнне вышэй за ўсё астатняе — калі гэта не тычыцца яго самога. Таму варта нагадаць палітыкам, што звычайнае жыццё таксама балючае. «Не рабіце нічога, што вам непрыемна!» — кажа старая добрая пагаворка. Уявім сабе, нарэшце, сустрэчу прэзідэнта Дуды з польскімі выбаршчыкамі — паводле новай традыцыі! Улічваючы, што прэзідэнцкая ахова падрыхтаваная па адзінаборстве, пытанне, які бок атрымаў бы больш балючы прыём, застаецца адкрытым. Іншая справа, што ў гэтым выпадку прэзідэнт усё роўна захоча мець чыстыя рукі. І ногі не ў сіняках.

Каранавірус закранае альбо бясспрэчна ўплывае на глабальную і мясцовую палітыку, на штодзённыя звычкі і ўпадабанні. Не ведаем, ці цалуе дам сёння ў руку Яраслаў Качынскі, вядомы сваім галантным стаўленнем да іх. Гэта лепшы спосаб заразіцца шалёным вірусам. Калі яшчэ не штурхае на прывітанне, скажам, пані Шыдла, у шчыкалатку, гэта толькі паказвае, наколькі кітайскія звычаі адрозніваюцца ад польскіх. З іншага боку, Польшча не адстае ад Кітая. Літаральна перад нашымі вачыма назіраецца «абкітаенне» палітычнай сістэмы ў нашай краіне. І там, дзяржавай і грамадствам кіруе толькі ідэалагічна правільная партыя, і тут крышынячку не хапае да поўнай палітызацыі дзяржавы і абездзеяздолення грамадства. Суды ўсё яшчэ прытрымліваюцца ўласцівай ім незалежнасці. Нават канстытуцыя выклікае ўсеагульную павагу. Па-ранейшаму незалежныя самаўрады паспяхова супрацьстаяць замацаванай уладзе. Але да часу. Карозія дэмакратычнай сістэмы прагрэсуе. Іржа псеўда-ідэалагічнага трыумфалізму пажырае Польшчу. Мы гэта бачым, але гэтага не прыкмячаем. Як аднойчы адзначыў вялікі філасаф Вітгенштэйн: «Не можам убачыць пэўных рэчаў таму, што ўсё іх маем перад вачыма». Таму трэба памяняць кагнітыўную перспектыву. Напрыклад, у думках пытаемся: „Якой будзе Польшча праз дзесяць гадоў?” Для некаторых гэта можа быць асвятляльны вопыт. Як кажа старая лацінская сентэнцыя, толькі той будзе абмануты, хто хоча, каб яго абманулі. Выпадак згітлерызаваных немцаў не мусіць быць выключным. Дарэчы, як прыклад, які ілюструе пэўную чалавечую нямогласць. Я буду называць яе кагнітыўнай слепатой — нешта бачым, і гэтага не бачым. Такім чынам мы бачым кожны дзень... штосьці, чалавечую крыўду, палітычную хлусню, здраду, выраджэнне ўлады, і ўсё ж мы гэтага не бачым. Хіба толькі таму, што яны адсланяюць чалавечую брыдоту? На жаль, наша слепата сціплая таксама і да прыгожых рэчаў. Варта іх убачыць. Аднак не трэба праніклівасці Вітгенштэйна, каб засведчыць уласную кагнітыўную слепату. Ніхто не свабодны ад яе. Можа, акрамя сапраўдных артыстаў. Іх адрознівае як спелая адвага, так і шчырая наіўнасць дзіцяці. Цар дарые дзіцяці, што яно смяялася з яго ў галізны, але дарослага загадаў абезгаловіць. Колькі трэба мастацкай адвагі, каб убачыць тое, чаго не хочуць бачыць іншыя? Ці нават паглядзець на гэта? Я маю гонар ведаць некаторых. Яны раскрываюць свет, закрыты чалавечымі павекамі. І неабавязкова свет у яго эфектным выглядзе. Таксама ў тых маленькіх і, здавалася б, трывіяльных. Уключаю да іх Янка Туронка, „апошняга яцвяга сярод беларусаў”. Займаецца мастацкай фатаграфіяй. Адна з апошніх яго прац, якая з'яўляецца асабістым укладам мастака ў глабальную барацьбу з каронавірусам — «Вірус праколаты кончыкам майго вока».

**Міраслаў ГРЫКА**

Сваімі вачыма

# Няма прыступу да праўды



Суботні ранні пасляабедзенны час 7 сакавіка прывёў мяне ў канферэнцыйную залу падляшскага ваяводы. Там пад яго ганаровым патранажам фонды „Падляшскі інстытут суверэннай Рэчы Паспалітай” і „Польшча — вялікі праект” зладзілі дыскусію на тэму „Гістарычная палітыка і лакальныя тоеснасці Падляшша”. У дыскусійным панэлі прынялі ўдзел міністр нацыянальнай адукацыі Дарыюш Пянткоўскі, падляшскі віцэ-ваявода доктар Тамаш Мадрас, прафесары Універсітэта ў Беластоку Юзэф Марошак і Алег Латышонак. Мадэратарам сустрэчы быў доктар Лукаш Любіч-Лапінскі, дырэктар Супрасльскага асяродка культуры. Паколькі арганізатары мерапрыемства звязаныя з правымі палітычнымі сіламі, то большасць удзельнікаў у зале, як удалося мне заўважыць, склалі актыўныя прыхільнікі і саўдзельнікі розных сустрэч і маршаў, прысвечаных памяці выклятых жаўнераў. Сярод іх вядомыя гайнавяне, такія як Барбара Палешук — арганізатарка гайнаўскіх маршаў і Багуслаў Лабэндзкі — працаўнік беластоцкага аддзялення Інстытута нацыянальнай памяці, апалагеты спрэчных герояў на Падляшскай зямлі, такіх як Рамуальд Райс „Буры” і Зыгмунт Шэндзеляж „Лупашка”. Сваёй арганізацыйнай сімволікай на вопратцы адзначаліся маладыя мужчыны з Абозу нацыянальна-радыкальнага, вядомага сваім беластоцкім маршам. Маю ўвагу звярнуў таксама ўдзельнік сустрэчы, які шпацыраваў з бела-чырвонай павязкай на руцэ. Былі ж і беластоцкія радныя і іншыя вядомыя асобы мясцовага ўзроўню. Прыбыла таксама моцная група таварыства „Русь” з прафесарам Анатолем Адзіевічам, паслом Яўгенам Чыквіным, юрыстам Пятром Юшчуком і іншымі сябрамі арганізацыі. На ўдзельнікаў сустрэчы ў фае ваяводскай управы чакала выстаўка „Атрады Лупашкі”, што з'яўляецца, між іншым, адным з вонкавых выяўленняў сённяшняй гістарычнай палітыкі польскай дзяржавы (пра выстаўку чытай больш стар. 12). Але памаленьку пяройдзем і да самой дыскусіі. Склад удзельнікаў панэлі аднязначна прадвяшчаў, што дамінантай будуць прыхільнікі цяперашняй, гістарычнай нарацыі, а прысутнасць прафесара Алега Латышонка мела надаць ходу дыскусіі адкрытасці і навуковага акадэмічнага дыскурсу з рознымі поглядамі на сутнасць справы. На практыцы ўсе хацелі даказаць, што наша беларуская памяць аб пасляваенных падзеях на Беласточчыне абсалютна немэтазгодная і шкодная для польскай дзяржаўнай палітыкі ў гэтай справе. Выказванне Алега Латышонка, што на яго думку, нельга сёння будаваць польскай гістарычнай памяці і грамадскай еднасці толькі на міфе выклятых жаўнераў сустрэлася з рэзкім выказваннем міністра адукацыі, што менавіта на гэтай аснове зараз і ў будучыні будзе выбудоўвацца тая ж палітыка, а таксама на памяці пра жаўнераў верасня 1939 года, варшаўскіх паўстанцаў 1944 года і менавіта на гераізме і беззаганнасці выклятых жаўнераў. У іншым месцы катэгарычна выказаўся ў адрас самаўрадавых улад, у тым ліку і радных Беластока, якія вядуць зараз судовую, адміністрацыйную справу наконт змены назвы вуліцы „Лупашкі”.

— Польшча з'яўляецца ўнітарнай дзяржавай, з адзінай гістарычнай палітыкай. Дзяржаўныя святы ў гарадах на тэрыторыі Падляшскага ваяводства павінны адзначаць і мясцовыя ўлады. Яны абавязаны гэта рабіць. Калі дзяржаўныя ўлады надаюць званне героя, калі польскі суд выдае пастанову, то няма падстаў для абмеркавання мэтазгоднасці надання вуліцам імён польскіх нацыянальных герояў, — заявіў міністр. У рэальнасці гэта абазначае, што няма аніякага прыступу да якой-кольвечы рэальнай дыскусіі і ўшанавання памяці і праўды пра нявінных беларускіх ахвяры выклятых жаўнераў. Прысутныя прыхільнікі і арганізатары маршаў і ўрачыстасцей у гонар „Бурага” ці „Лупашкі” атрымалі адназначную падтрымку з боку дзяржаўнай адміністрацыі. Выказванне міністра і падобныя меркаванні астатніх выступоўцаў сустракаліся з апладысментамі залы. Як парадокс выглядала сітуацыя, калі Алег Латышонак з чыста гістарычнага пункту гледжання аналізаваў шляхі польскай гісторыі ў час Другой сусветнай вайны і яе вынікі для фарміравання нацыянальнай еднасці грамадства. Яго выказванні ўспрымаліся прысутнымі дыскутантамі і ўдзельнікамі так, быццам старшыня Беларускага гістарычнага таварыства бараніў камунізм і сацыялізм. Іншыя часы, іншыя звычаі! — застаецца толькі ўскрыкнуць.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Крыху палохае мяне тое, што некаторым вучням не залежыць на добрых ацэнках

**— Чаму Вы сталі настаўніцай беларускай мовы?**

— Ад маладых гадоў цікавіла мяне беларуская культура, традыцыя і гісторыя. У сваёй вёсцы, калі я была ліцэісткай, арганізавала тэатральныя гурткі, мы спявалі песні, з якімі выступалі ў сваёй вёсцы. Ездзілі таксама з канцэртамі ў іншыя вёскі, а пасля канцэртаў ладзілі танцавальныя вечарыны.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Мой ідэал — настаўніца беларускай мовы Зінаіда Дэмянюк. Мяне ўразіла яе працавітасць і вопыт. Не магу не ўспомніць таксама светлай памяці спадарыні Зінаіды Навіцкай. Яна заўсёды размаўляла з намі на беларускай мове або на гаворцы. Мы разам з ёй увялі ў праграму школы мерапрыемства «Беларускі дзень», які цяпер святкуем на Дзень волі. Дапамагала мне яна таксама рашаць асабістыя праблемы.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Супрацоўнічаю з настаўнікамі з ліцэя з Гайнаўкі, пераважна з Янкам Карчэўскім. Гэта сябар, з якім можна парадзіцца адносна навучання беларускай мове ў ліцэі. Супольна падбіраем літаратуру да праграм навучання ў ліцэі. Паспяхова працавалі ў камісіях па прадметным конкурсе для пачатковай школы і гімназіі. Заўсёды была аднагалосная згода наконт ацэнкі задач.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Многія арганізацыі і ўстановы дапамагаюць развіваць беларускую культуру. У апошнія гады найбольш цаню Культуры цэнтр Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Вялікая дапамога ад іх гэта арганізацыя экскурсій у Беларусь, а таксама народных убораў для калектываў «Спадчына» і Танцавальнай групы.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Кожны год арганізую экскурсію ў Мінск і Мір або Нясвіж. Абавязкова ў Мінску пабываем у тэатрах на беларускіх спектаклях. Таксама арганізуем з Гімназіяй № 23 у Мінску супольныя праекты. Апошнія гады пад лозунгам: Мая малая айчына; у прошлым годзе гісторыя, а ў гэтым культура. Моладзь, апрача прэзентацый, дэкламуе вершы, супольна спяваем. Канчаем сустрэчу песняй «Люблю наш край». Ужо некалькі гадоў рыхтую з вучнямі беларускія танцы такія як: «полька беларуская», «лявоніха». Вучні танцуюць іх на «студнёўцы» і школьных мерапрыемствах. Гэта была мая мара. Яна споўнілася дзякуючы настаўніцы з Гімназіі № 3 у Берасці. З гэтай школай мы супрацоўнічаем ужо сем гадоў.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Найбольш важная ў ліцэі Алімпіяда па беларускай мове. Каб вучань стаў пераможцам алімпіяды, трэба з ім многа працаваць. Важныя і любімыя таксама конкурсы «Пазнай Беларусь» і «Сцэнічнае слова».

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**



**Анна БЖАЗОЎСКАЯ** нарадзілася ў вёсцы Сакі на Бельшчыне. Закончыла II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, а потым вучылася на курсе беларускай і рускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Працавала ў ГП БГКТ, а пасля ліквідацыі штатаў пачала працаваць настаўніцай беларускай мовы. З 1996 года працуе ў Бельскім белліцэі. Ужо чатыры гады на пенсіі, аднак з задавальненнем далей навучае беларускай мове ў сваім ліцэі. Жыве ў Бельску.

— Заўсёды магла разлічваць на дапамогу бацькоў, асабліва тады, калі была выхавацелькай. Бацькі дапамагалі ладзіць школьныя і класныя мерапрыемствы, напрыклад, супольная Куцця: разам былі бацькі, вучні, настаўнікі. Найбольш, аднак, пры арганізацыі «студнёўкі», бацькі дапамагалі рабіць дэкарацыю, пасля поўдня дзяжурылі ў школе, прыносілі дзецям ежу, каб мелі сілу працаваць.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Гэты закон даводзіць да таго, што вучань можа выпісацца з урокаў беларускай мовы. Усё аднак залежыць ад бацькоў, у якой школе будзе вучыцца іх дзіця. Яны павінны мець свядомасць, што ў школе, дзе будуць вучыцца іх дзеці, вядзецца навучанне беларускай мове, таму гэтую мову яны павінны вывучаць. Вялікае значэнне мае настаўнік, які павінен заахвоціць дзяцей, каб прыходзілі на ўрокі.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны хапае, каб рэалізаваць праграму навучання. Пра культуру, гісторыю і традыцыі нашага рэгіёна вучань даведаецца на дадатковай гадзіне ў другім класе. Падрыхтоўка да алімпіяды, конкурсаў адбываецца на занятках пасля ўрокаў.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Дакладна не памятаю, але можа больш за сто. Ад 2005 года — гэта дакладна 65 асоб.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— На сённяшні дзень маем новыя падручнікі па беларускай літаратуры і гісторыі. Калі мне чагосьці не хапае, карыстаю з падручнікаў, якія прывезла ў школу з Беларусі. Раблю ксеракопію матэрыялаў і раздаю вучням. Вельмі патрэбны падручнік па беларускай мове. На занятках карыстаю з падручнікаў з Беларусі і «Беларуская мова» Лідзіі і Мікалая Гайдукоў.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Беларуская мова» Лідзіі і Мікалая Гайдукоў.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Ларыса Геніюш, Максім Багдановіч.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Ларысы Геніюш «...унукам».

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаем артыкулы з «Нівы», часам з «Часопіса». Кожны вучань у паўгоддзі адказвае з «Нівы», выбірае самы цікавы артыкул, распавядае ў класе і даказвае, чаму гэты твор яго зацікавіў.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Фестываль «Бардаўская восень» і фестываль «Беларуская песня».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляем на беларускай мове, але часцей на гаворцы. Большасць вучняў вітаецца са мной «Добры дзень!» і не саромеюцца гэтага рабіць, калі знаходзяцца з групай сяброў не толькі з нашай школы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не памятаю прыкрых успамінаў, але цудоўных у мяне шмат.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— У школе не адчуваю ніякай стомы. Магу быць і працаваць кожны дзень з вучнямі, якія патрабуюць дапамогі. Крыху палохае мяне тое, што некаторым вучням не залежыць на добрых ацэнках.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Адна выхаванка зрабіла дактарат, другая працуе ў TVN. Апошнія працуюць у розных прафесіях.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Многа разоў атрымала ўзнагароду дырэктара школы, атрымала таксама Бронзавы крыж заслугі, срэбную адзнаку „Заслужаны для Беласточчыны", адзнаку Заслужаны дзеяч культуры, а таксама медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— У асабістым пытанні гэта дзеці і ўнукі, а на працы гэта магчымасць працаваць будучы на пенсіі. Чалавек адчувае сябе патрэбным. А гэта ўсё магу здзейсніць дзякуючы спадару дырэктару Андрэю Сцепанюку. Натхненне дае таксама атмасфера ў школе, а таксама высокія вынікі матуральных экзаменаў і алімпіяд.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Вельмі цешуся, калі вучні гавораць: „Вы настаўнік з прызвання, Вы патрэбная нашай школе", калі атрымліваю паштоўкі ад вучняў дзе напісана: «Мой, наш любімы настаўнік».

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Герб Пагоня.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Якая будзе будучыня беларусаў, залежыць ад іх саміх, а асабліва ад маладога пакалення. Кожны малады чалавек павінен ведаць і зберагаць спадчыну сваіх продкаў.



Апытальнік правяла **Ганна КАНДРАЦЮК**

## Чаромхаўская традыцыя

Традыцыя адзначаць Міжнародны дзень жанчын 8 сакавіка гэта цыклічнае мерапрыемства запісанае ў календары Чаромхі як пастаяннае культурнае мерапрыемства. Пры камуне Рады прафсаюзных арганізацый чыгуначнікаў арганізавалі на прадпрыемствах святочныя вечарыны. Была мастацкая частка з пачастункам, затым жанчынам дарылі сувеніры і сімвалічную кветку. У 1976 годзе, напрыклад, такую імпрэзу ў доме культуры „Калеяж" арганізавала Гмінная ўправа з Радай прафсаюзаў чыгуначнікаў. З дакладам выступіў дырэктар школы Мікалай Міхалюк. У мастацкай частцы выступіў калектыў з Варшавы. Сустрэча пры шклянцы чорнай кавы адбылася ў рэстаране „Прыгранічная". Жанчынам у падарунку быў уручаны шакалад. Дваццаць год таму, 5 сакавіка, у доме культуры „Калеяж" прафсаюзная рада Праўлення пенсіянераў арганізавала святочны вечар, прысвечаны Дню жанчын. Як гаварыў мне тагачасны сакратар праўлення Мар'ян Паскрубка, у сустрэчы ўдзельнічала каля двухсот чалавек. Было шампанскае і чырвонае віно, салодкі пачастунак ды рознага віду напіткі. У мастацкай частцы выступіла вакальная група беластоцкіх пенсіянераў. Не абышлося без музыкі і танцаў. Застаўся па сённяшні дзень мілы ўспамін.

Сёлета Дзень жанчын адзначаўся 8 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры. Арганізатарамі былі ГАК, Гмінная ўправа і Польскі саюз пенсіянераў. У мастацкай частцы выступілі вучні чаромхаўскіх школ. Жанчын павіншавалі старшыня Рады гміны Мікалай Васілюк, старшыні арганізацыі пенсіянераў Мікалай Янчук і клуба сеніёра Здзіслаў Закшэўскі. Сустрэча адбылася пры салодкім пачастунку і напітках. Удзельнічала каля шасцідзесяці чалавек. Транспарт з адлеглых сёл забяспечыла Гмінная ўправа. Жанчын абдаравалі гваздзікай.

(УС)

## Іду з „Нівай"

Што я неразлучны з беларускім штотыднёвікам „Ніва" найлепш ведаюць жыхары Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Некаторыя з іх у пошуках патрэбнага ім экземпляра газеты прыязджалі да мяне, між іншым, з Семянок, Тарнопаля, Старога Ляўкова і Лешукоў. У пачатку сакавіка пазваніла мне жыхарка Міклашэва — яна хоча купіць „Ніву" з календаром на 2020 год. Я маю і прадам. Беларускі штотыднёвік з календаром купяць у мяне дзве асобы з Новага Ляўкова (яны верныя чытачы „Нівы") як толькі вернуцца ў свой дом пасля „зімоўкі" ў сваіх родных, якія жывуць у гарадах, між іншым, у Беластоку і Элку.

Я кожны тыдзень іду і еду з газетай да чытачоў. 8 сакавіка г. г. завёз я „Ніву", між іншым, Канстанціну Ярошуку ў Новіны, Альжбеце Кунцэвіч у Лешукі, Мірacлаве Балтромюк у Старое Ляўкова і жыхарцы Новага Ляўкова Яўгеніі Смольскай.

Вярнуўся я дадому і ўзяў свой мабільнік са стала (гэтым разам не браў тэлефона з сабою). Была лаканічная эсэмэска: „Памёр Андруша Пучынскі". Майго старэйшага сябра Андрэя ў нашай вёсцы называлі Андрушам. Я не мог у гэта паверыць. Мы ж мелі сустрэцца, калі ён толькі прыедзе ад сястры з Элка. Ён любіў бацькоўскі дом над Баброўкай, дзе шырокі прастор ды пасярод поля грушы на мяжы. Я, маючы вольныя хвіліны, прыходзіў да старэйшага сябра, слухаў яго цікавых расказаў пра мінулае вёскі Ляўкова, яе колішніх жыхароў, чыталі „Ніву". Ды вось усё парвалася. Аповед не закончаны. Наш чытач адышоў ад нас туды, адкуль не вяртаюцца. Ягоны драўляны дом з ганачкам ужо без гаспадара будзе сумны і пусты. А прыйдзе май, тады каля хаты зацвітуць кусцікі язміну. Я прыйду пасядзець хаця на хвіліну на лавачцы на пустым панадворку. Успомню нядаўняе незваротнае. **(яц)**

# Захаваць ваду — абмежаваць засуху





■ Выставу «Ахоўвайма водна-балотныя тэрыторыі» адкрыла дырэктар Нарваўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч

**Апошнім часам штораз больш гаворыцца пра розныя факты, якія маюць уздзеянне на змену клімату і адмоўныя гэтага паслядоўнасці, хаця б буры і ўраганы, якія спрычыняюцца да шматлікіх трагедый. Апошнімі гадамі засуха спрычынілася да паніжэння плёнаў у сельскагаспадарчай прадукцыі. На засуху наракалі таксама жыхары гарадоў і вёсак, якія не займаюцца вырошчваннем збожжа і жывёлагадоўляй. У час сустрэчы, якая была арганізавана 28 лютага ў Нарваўскім асяродку культуры, можна было даведацца пра вельмі адмоўнае ўздзеянне асушвання водна-балотных тэрыторый і паглыблення рэк на змену клімату і на жыццё людзей. У час спаткання адбылося адкрыццё фотавыставы «Ахоўвайма водна-балотныя тэрыторыі», на якой на вялікафарматных здымках можна ўбачыць прыгожыя надрэчныя краявіды ў Польшчы, падобныя да тых з мінулага ў Нарваўскай гміне.**

— Водна-балотныя тэрыторыі (дрыгва) фарміруюць наш свет, хаця большасць з нас не ведае аб гэтым. Яны рэгулююць клімат, ахоўваюць перад засухай і паводкамі, ачышчаюць ваду і з'яўляюцца домам для аграмаднай колькасці рэдкіх гатункаў жывых арганізмаў. Мы залежныя ад водна-балотнай тэрыторыі, але ўвесь час яе нішчым у непараўнальна большай ступені, чым іншыя экасістэмы. Ці зможам спыніць дэградацыю водна-балотнай тэрыторыі і дапаможам вярнуць ёй раўнавагу, якую мы самі разбурылі? Мы гэтым абавязаны будучым пакаленням — пакаленням людзей, раслін і жывёл, — заявіла на адкрыцці выставу дырэктар Нарваўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч.

На мерапрыемства прыбылі жыхары Нарваўскай гміны. У пачатку спаткання дэманстраваўся фільм «Навошта нам балота» навуковага працаўніка Варшаўскага ўніверсітэта прафесара Віктара Катоўскага, спецыяліста па пытаннях захоўвання водна-балотных тэрыторый і натуральнага наваднення лугоў. У фільме прафесар Катоўскі паінфармаваў, што водна-балотныя тэрыторыі маюць аграмаднае ўздзеянне на клімат на ўсёй нашай планеце. Удзельнікі спаткання даведаліся з фільма, што тарфянікі гэта вельмі вялікі рэзервуар вады і вугалю, якога ў тарфяніках на нашай планеце ёсць у два разы больш, чым ва ўсіх лясах. Прафесар Катоўскі паведаміў, што вугаль і вада ў тарфяніках спрычыняюцца да таго, што клімат становіцца менш сухім і абмяжоўваюць стыхійныя з'явы ў прыродзе. Метр торфу адкладваўся прыблізна тысячу гадоў і таму таксама варта ахоўваць тарфянікі ад знішчэння.

— Выстава «Ахоўвайма водна-балотныя тэрыторыі», якую мы сёння адкрылі, з'яўляецца часткай праекта «Грамадскі кантроль гаспадарання экасістэмамі рэк у Польшчы», які рэалізаваўся аб'яднаннем «Цэнтр аховы водна-балотных тэрыторый» у рамках праграмы «Грамадзяне ў карысць дэмакратыі». На вялікафарматных фатаграфіях можна ўбачыць таксама месцы падобныя да тэрыторый распаложаных каля ракі Нарва ў Нарваўскай гміне. Гэта прыгожыя краявіды, але на здымках перш за ўсё паказваюцца прыклады, як зберагаць як найбольш вады ў наваколлі рэк, перш за ўсё на водна-балотных тэрыторыях. Гэта дазваляе абмяжоўваць адмоўныя ўздзеянні засухі на навакольнае асяроддзе, — удакладніла дырэктар НАК Агата Смактуновіч.

На выставе прэзентуюцца таксама здымкі фатографаў з Падляшша Гжэгажа і Тамаша Класоўскіх. Адкрыццю экспазіцыі бляску дадало выступленне жаночай вакальнай групы «Палудніцы» з Беластока, якая спявала пра жыццё ў мінулым і суіснаванне людзей з прыродай, выконваючы між іншым творы запісаныя ад старэйшых жанчын на Беласточчыне.

У канцы спаткання ахвотныя падпісвалі петыцыю супраць здабычы торфу. Суполка «Вокас» з Лосіц намерваецца здабываць торф на лугах паміж вёскамі Гародчына, Градочна і Ляхі ў Нарваўскай гміне і Кленікамі ў Чыжоўскай гміне. Жыхары гэтых вёсак і суседніх мясцовасцей заснавалі Грамадскі камітэт аховы тарфяных лугоў, напісалі петыцыю і сабралі пад ёй на папяровых спісах і ў інтэрнэце ўжо звыш 4 тысячы подпісаў. У петыцыі, адрасаванай войтам і радным Нарваўскай і Чыжоўскай гмін, падпісанты супрацiўляюцца будове капальні торфу.

— Мы ўжо падпісаліся пад петыцыяй, але ў Нарве не ўсе ведаюць аб намеры здабычы торфу каля Гародчына, — заявілі дзве ўдзельніцы сустрэчы.

— Я сама родам з Ляўкова, але жыву ў Нарве. Раней не ведала аб намеры здабычы торфу, — сказала ў пачатку спаткання іншая жанчына.

— Мы падпісаліся пад петыцыяй, паколькі хочам захаваць наша натуральнае асяроддзе, — заявілі дзве іншыя жанчыны.

— Мы, члены Грамадскага камітэта аховы тарфяных лугоў, намагаемся пераканаць улады Нарваўскай і Чыжоўскай гмін, каб не давалі згоды на будову тарфянога кар'ера. Здабыча торфу была б шкоднай для сельскагаспадарчай прадукцыі і ўсяго навакольнага асяроддзя, — заявіла адна з актывістак камітэта.

Подпісы пад петыцыяй сведчаць, што мясцовае насельніцтва супраціўляецца намерам будовы кар'ера. Подпісы сабраныя ў інтэрнэце паказваюць, што супраціў мясцовага насельніцтва падтрымліваецца таксама звонку.

— Дамовіліся мы ўжо з прафесарам Інстытута біялогіі Варшаўскага ўніверсітэта Віктарам Катоўскім, спецыялістам па справах гаспадарання на тарфяніках, на спатканне 13 сакавіка ў Нарваўскім асяродку культуры. Запрашаем на сустрэчу войтаў і радных Нарваўскай і Чыжоўскай гмін. Гэта будзе адкрытае спатканне і спадзяемся, што прыбудуць на яго таксама мясцовыя жыхары, перш за ўсё з тэрыторый, на якіх прадбачваецца здабыча торфу. У час сустрэчы можна будзе ставіць пытанні, каб даведацца аб магчымым уздзеянні планаванай здабычы торфу на навакольнае асяроддзе, а ў гэтым ліку на сельскагаспадарчую прадукцыю, — паінфармавала дырэктар Нарваўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч.

Тэкст фота
**Аляксей МАРОЗА**

Павел ДУБЯНЕЦ,
святар, краязнавец

# Зімовае свята ў Нобелі


Фота Ганны КАНДРАЦЮК
Бабуля Марыя Праневіч

**Гэтай зімой вада ў Нобельскім возеры замярзала толькі аднойчы. На пачатку лютага два дні быў мароз — і возера „стала”. Так гавораць на скутае лёдам возера ў вёсцы Нобель, знаёмае чытачам «Нівы» з-за кнігі Ганны Кандрацюк „Па Прыпяці па Нобель”, раздзелы якой таксама друкаваліся на старонках нашага тыднёвіка. Возера „стала”, але выйсці на лёд ніхто не мог: вельмі крохкім і тонкім ён быў. А потым дзьмуў парывісты паўднёвы вецер — і хвалі зноў спыніліся на вадзе.**

— Такой зімы я не прыгадаю! Каб на Вадохрышча святар ваду з лодкі свяціў, такога з роду не было! — уздыхае дзевяноста-пяцігадовая бабуля Марыя Праневіч, адна з гераінь кнігі Ганны Кандрацюк.

Бабу Маню, найстарэйшую жыхарку вёскі, я пабачыў у коле маладых пеўчых царкоўнага хору. Светлым тварам, позіркам блакітных вачэй яна сустракала маю хаду да царкоўнага алтара. Не стрымаўся, спыніўся я на парэнчах, якія адгароджвалі ўзвышэнне, блаславіў і пацалаваў бабулю праз цярновую хустачку ў мудрую і памятлівую галаву. А ў гэты час хор пад кіраўніцтвам матушкі Валянціны спяваў трапар свята, на якое сабралася нябачаная як для Нобеля колькасць святароў...

У вясковым храме ў дзень памяці трох святых Васіля Вялікага, Рыгора Багаслова і Яна Залатавуста па ініцыятыве маладога настаяцеля айца Аляксандра Карапкі, нядаўняга выпускніка Пачаеўскай духоўнай семінарыі, адбылося ўрачыстае набажэнства ў гонар 27-годдзя адбудовы і асвячэння царквы. На службу сышлося адзінаццаць святароў з трох епархій Украінскай праваслаўнай царквы ды яшчэ і дыякан айцец Аляксандр з самой Пачаеўскай лаўры — былы аднакласнік айца-настаяцеля з семінарыі. Пра тое, што ў Пачаеўскай лаўры служаць найбольш галасістыя ва ўсёй Украіне дыяканы, не варта нават і казаць. Спеў айца Аляксандра ў нобельскай царкве быў падобны на спеў лепшых оперных выканаўцаў у свеце. Старажытны каменны велічны будынак царквы падымаў воклічы дыяканаў, уздымаў іх у скляпенні і апускаў з благадатным парывам асалоды ў душы вернікаў, што сышліся на службу.

У гэты дзень сышлося ў царкву ў дэпрэсіўным і вымірающым Нобелі як ніколі шмат людзей. Ніхто не лічыў, але не менш сотні вернікаў стаяла на царкоўнай службе. А гэта амаль палова ўсіх тых, хто жыве ў вёсцы. Людскія патокі ўвогуле абмялелі ў вёсцы, так як абмялела і возера, моцна зарослае чаротам у гэтыя апошнія засушлівыя гады. Што далей?

Жывуць людзі ў Нобелі з добрымі надзеямі. А таксама з перажываннямі і клопатамі пра сваю царкву. Для іх гэта прадмет гонару і галаўнога болю адначасова. Нядаўна заўважылі — працякае дах, аблупліваецца тынкоўка. Трэба рамантаваць! Пачалі збіраць грошы. З гэтай мэтай сам святар разам са сваімі памочнікамі з царкоўнага прыхода хадзіў па хатах. Дапамаглі і каляды. Ужо і назбіралі дробязі, каб пачаць працу.

За два дні выразалі старыя тоўстыя хвоі на вясковых могілках. Дваццаць моцных мужчын сышлося на могілкі да працы. На царкоўную службу так шмат мужчын ніколі не збіралася, як у той дзень. Сярод магільнай цішыні гудзелі бензапілы, выцiралі потныя ілбы працаўнікі... Праца кіпела. Стараліся не для кагосьці, для сябе! Напярэдадні святочнага набажэнства яшчэ складалі дошкі, якія пахлі смалой, у стэлажы на гары побач з царквой. Адкідвалі смецце, чысцілі дарогу. У штодзённых клопатах надыходзіў святочны вечар...

Айцец-пробашч яшчэ зусім малады, усяго дваццаць трэці год пайшоў. Яго матушка яшчэ малодшая — і дваццаці няма. Абое з Букавіны. А гэта іншы край Украіны, іншыя традыцыі, жыццёвы лад, іншы клімат. І вось чужыя людзі! А хіба чужыя цяпер? За паўтара года службы ў царкве айца Аляксандра палюбіла ўся вёска за ціхі, мяккі характар, сціпласць, вернасць царкве, за пропаведзі-вучэнні, якіх у храме не чулі даўно. І хоць людзі стамляюцца ад доўгіх пропаведзяў айца, таму што кажа іх яшчэ і па-вучонаму, па-семінарскаму, але ахвотна ўслухваюцца ў кожнае слова праўды Божай...

...У мінулым годзе ў дзень храмавага свята Праабражэння Гасподняга, у самы пік летняга адпачынкавага сезона, у час канікул і водпускаў, жыццё ў Нобелі, як і кожны год, становіцца больш ажыўленым. На „царкоўную гару” на свята Збаўцы сходзіцца і з'язджаецца шмат людзей, каб асвяціць яблыкі, вінаград, травы, зелле. Нарэшце пабачыць адзін аднаго, са святам павіншаваць. Тыя, каго лёс занёс далёка ад роднай вёскі, хаця б рухам душ сваіх маюць магчымасць аб'ядначца ва ўспамінах з далёкім дзяцінствам, юнацтвам, лепшымі гадамі свайго жыцця, праведзенымі тут, у вёсцы над возерам.

Для айца Аляксандра і матушкі Алены ў дзень храмавага свята быў зроблены сюрпрыз. Падарылі яго бацькі з сем'яў айца і матушкі, прыехаўшы на мікрааўтобусе ў госці аж з Букавіны. Больш за шэсцьсот кіламетраў адолелі яны, каб наведаць дзяцей, а таксама прывезці з сабой багатую букавінскую кухню, розных дома згатаваных страў, каб імі пачаставаць усіх, хто прыйшоў на свята. Такой была падзяка ад сваякоў айца і матушкі тым людзям, якія прынялі і па-бацькоўску клапоцяцца пра лёс іх маладых дзяцей. Служба святара падобная да ваеннай службы: куды накіруюць, там і спыняюцца. Так і айцец Аляксандр ужо кажа: „Мой дом тут, на Палессі!”.

На гэты раз гасцей з Букавіны не было. Хоць не са снегам і маразамі, але зіма на календары. Рушыць у дарогу праз Карпаты ў такую пару небяспечна.

Храм у Нобелі збудаваны на высокай гары, былым месцы сярэднявечнага гарадка. Калісьці ў гэтым месцы стаяла аж пяць цэркваў і манастыр мужчынскі быў. Прынамсі, пра гэта пішуць старажытныя кнігі Пінскага старства. Для адной з цэркваў — храма св. Мікалая — у 1520 годзе было напісана Чатырохевангелле, якое цудам захавалася да сёння. І хоць зараз яно за мяжой, у літоўскай Вільні, але ў вёсцы ганарацца гэтай памяткай. Няма цяпер царквы св. Мікалая, як і няма следу ад іншых, якія згадваюць летапісцы. Сучасны цагляны храм з усіх бакоў абдзьмухваецца ветрам, а белізну яго сцен можна пабачыць здалёку. Пабудаваны ён быў у 1927 годзе на месцы спаленай падчас Першай сусветнай вайны драўлянай царквы. У гэтай старой царкве восенню 1913 года быў ахрышчаны беларускі паэт Сяргей Грахоўскі. Пазней ён напіша пра гэта ў адным са сваіх вершаў:

*Мяне хрысцілі адсюль далёка,*
*Між двух азёр, між двух палян,*
*І пазіраў ласкавым вокам*
*Айцец Самковіч Юліян.*

Жонка айца Юліяна Самковіча стала хроснай маці будучага паэта. І пазней, не без гонару, у сваёй біяграфіі Грахоўскі заўсёды пісаў, што нарадзіўся ён у Нобелі, хаця і пражыў тут толькі некалькі месяцаў, да пачатку Першай сусветнай вайны...

Ацяпленне ў новай царкве няма, але ніхто на службе не змёрз. Наадварот, ад богаслужэння было цёпла ў душы і гэтая святая цеплыня перадавалася па ўсім целе. Спакойна і ў гэты ж момант урачыста спяваў царкоўны хор, сярод удзельнікаў якога была і Валянціна Ташлыковіч — стараста сяла Нобель і бліжэйшых хутароў Дзядоўкі, Млыны, Катэры, Радавель. Яна таксама адна з гераінь кнігі Ганны Кандрацюк. Гэта тая самая гаспадыня, якая ўпершыню ўбачыўшы ў вёсцы Ганну на вуліцы з пышнымі чорнымі валасамі, якія спадалі на плечы, падумала, што цыганка прыйшла нешта выманчачваць у людзей. Пасля знаёмства яна стала галоўным гідам і даведнікам для журналіста ў роднай вёсцы. Гэта яе муж Мікалай, каб Ганна паспела на аўтобус у суседнюю вёску, які ад'язджаў на Валынь, з шалёнай хуткасцю гнаў свае старэнькія „Жыгулі” прама па бездарожжы. Ганна здзіўлялася, паколькі ў асобе спадара Міколы пабачыла, што і на Палессі жывуць не горшыя за масцітых аўтаралістаў гоншчыкі. Нічога, што было страшна, затое паспелі на маршрутку. Гэты эпізод спадарыня Ганна апісала ў сваёй кнізе, і выглядае ён смешна. Але сапраўды палескія мужчыны, калі хочуць, могуць зрабіць усё...

Царкоўны хор у Нобелі асаблівы. У ім спявае ўся інтэлігенцыя вёскі: стараста, настаўнікі, працаўнікі культуры і нават ветэрынар, адзіны мужчына сярод пятнаццаці жанчын. Кіруе харам вопытная матушка Валянціна. Гэта яна са сваім мужам, айцом Уладзімірам, дваццаць сем гадоў таму былі першымі, хто пачаў правіць службу ў адбудаваным храме.

Абжыліся. Дзяцей вырасцілі. Ужо і дом новы набылі. А потым з-за пэўных абставін бацюшка быў вымушаны змяніць месца службы і паехаць у іншую вобласць. Матушка засталася ў вёсцы, таму што хату няма на каго пакінуць. А прадаваць не хочацца — вельмі прыгожая мясцовасць вакол. Курортная. Айцец у вольны ад службы час прыязджае дахаты. Матушка Валянціна заўсёды ў руху — непаседлівая, але сціплая перад Богам.

Яна, акрамя таго, што кіруе царкоўным хорам, яшчэ і пошту разносіць па навакольных хутарах, а нядаўна мацярынскай апекай пачала клапаціцца пра дабрабыт сям'і маладога святара. Хто, як не яна, дапаможа парадай сям'і цяперашняга бацюшкі. У гэтым жа ўзросце яна і сама прыехала ў Нобель. Сярод гэтага інтэлігентна-творчага рознагалосся (а ў дзень святочнай службы хору таксама дапамагалі і матушкі святароў, якія прыехалі) голас бабы Мані Праневіч не згубіўся.

— Для мяне спевы ў царкве — гэта глыток свежага паветра, і яно нібыта ажыўляе мяне, — гаворыць бабуля.

Яна яшчэ і на хары можа падняцца, пераадолеўшы тры дзясяткі стромкіх драўляных прыступак. Вось так як пачала яшчэ за польскім часам дзесяцігадовай дзяўчынкай спяваць у царкве, то і зараз гэтай справы не пакідае.

— Да нас тады, пры Польшчы, прыехаў малады святар айцец Епіфаній Валашчук і давай з дзяцей рабіць царкоўны хор. Вельмі мне спадабалася спяваць на тых спяваннях. А яшчэ мой тата ўсё жыццё ў хоры спяваў. Тады ў нас быў хор з адных мужчын, а жанчын і блізка не падпускалі да кліраса.

Гэтыя мужчыны спявалі, мабыць, лепей за ўсю гміну. Нават на агляд царкоўных хароў у Пінску паплылі на чаўнах. У касцюмах, пасталах, саламяных капелюшах. Выйшлі там перад уладыкам у тым, у што яны былі апрануты, а як спявалі, аж сцены ў царкве дрыжалі! А ўладыка пытае: „Адкуль вы і чаму ў пасталах?”. А потым загадвае ўсім харыстам выдаць з царкоўнага склада хромавыя боты. Так што паехалі мужчыны ў Пінск у пасталах, а вярнуліся ў ботах. Калі б вы ведалі, які то быў абутак на той час! Усё гэта я помню, таму што сама бачыла, — злёгку ўсміхаючыся, кажа баба Маня.

чытайце 10



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Спісак лаўрэатаў прадметнага конкурсу па беларускай мове

Як не цікава, найбольш лаўрэатаў з Беластока. Іх, на шаснаццаць лаўрэатаў, ажно дзесяць! І гэта не адно вучні, дзе выкладаецца беларуская мова. Чатырох з гэтай дзясяткі рашыла самастойна падняць выклік і праверыць свае веды. Традыцыйна, узровень трымаюць беластоцкія «чацвёрка» і «праваслаўная» школы, дзе па тры лаўрэаты. Бельская «тройка» можа пахваліцца наймалодшымі ўдзельнікамі. Сярод трох лаўрэатаў, дзве шасцікласніцы — Аляксандра Кобусь і Аляксандра Харытановіч. Пры васьмікласніках, з якіх некатора ўжо пяты раз прымалі ўдзел у конкурсе, яны як першапраходцы. Пра вялікі поспех можна гаварыць у выпадку школ у Залуках і Белавежы. Там упершыню з'явіліся лаўрэаты прадметнага конкурсу. Ды перакананне, што ў малых школах такое немагчыма, страціла сэнс. Усё магчыма, калі ёсць ангажаванасць і любоў да роднай мовы!



Тут трэба пахваліць за адвагу не толькі вучаніц, але і іх настаўніц: Уршулю Шубзду і Ангеліну Масальскую за тое, што пераселі ментальны бар'ер.

А вось поўны спісак лаўрэатаў:

**Кацярына Астапчук** (Прыватная школа № 1 у Беластоку), **Анна Баравік** (ПШ № 4 у Гайнаўцы) **Аляксандра Харытанюк, Аляксандра Кобусь, Павел Сельвясюк** (ПШ № 3 з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім), **Юля Гжэсь** (Непублічная школа ў Залуках), **Анна Іванюк, Іван Карсунскі, Габрыела Крупіч** (НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), **Кацярына Іванюк, Марыя Пякарская, Сара Скаўронская** (ПШ № 4 у Беластоку), **Максім Кавэцкі** (ПШ № 5 імя Уладзіслава Бранеўскага ў Беластоку), **Кандрат Косцін, Мікола Здрайкоўскі** (ПШ № 53 у Беластоку), **Марыя Марчук** (ПШ у Белавежы).

**(з-ка)**

# Міфы старажытных беларусаў

Гара - старажытныя беларусы гару лічылі вертыкальнай воссю сусвету і сусветным дрэвам. На вяршыні сусветнага дрэва жылі багі, у ніжняй частцы — ліхія духі, а на сярэдняй, людзі.

Гара сімвалізавала шлях для душ памерлых у вырай, а ў народных абрадах была цэнтрам рытуальнай прасторы. На гары, лічылі нашы продкі, можна атрымаць прароцтвы ад багоў у выглядзе вешчых сноў.

Да XX стагоддзя беларусы яшчэ пакланяліся культавым горам і ўзгоркам, а ў памяць рытуалам захаваліся такія назвы як Дзявочая гара, Святая гара, Лысая гара, Змеева гара, Царквішча...

Узгоркі, якія ў народзе называлі «лысымі», звычайна былі пазбаўлены раслінnасці і служылі паганскім абрадам. Верагодна на такіх узгорках знаходзіліся язычаскія свяцілішчы і там адбываліся шабашы. Найбольш вядомая ў Беларусі Лысая гара знаходзіцца паблізу Заслаўя каля Мінска. Але такіх горак на тэрыторыі Беларусі больш за сотню. Звычайна з такімі месцамі звязаныя легенды пра цэрквы, якія праваліліся пад зямлю.

Некаторыя горкі фіксуюць гісторыю краіны. Вось недалёка Полацка знаходзіцца свяшчэнная гара, якую называюць Гарой Рагвалода і Рагнеды, ці Рагнедзінім курганом. Паданне расказвае, што на гэтай гары князь Рагвалод быў забіты разам з сынамі каменным малатком, а пазней тут была пахавана і яго дачка Рагнеда. У старадаўнія часы людзі верылі, што напярэдадні вайны з гэтай гары з'язджае магутны вершнік у зброі на белым кані.

(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей») **(гак)**

Якуб ВАСІЛЬЧЫК
ПШ у Нараўцы

## Бабуля і дзядуля - пачатак сям'і

Твае бабулі і дзядулі гэта сям'я,
У якой нарадзіліся твае бацькі.
Ты нарадзіўся ў сям'і
сваіх бацькоў,
А твае дзеці народзяцца
ў тваёй сям'і.
Ты ніколі не забывай пра
Сваіх бацькоў і дзядуляў,
Бо гэта твае продкі.

Караліна КАЗБЭРУК
ПШ у Міхалове

## Свавольнікі

Школьныя свавольнікі непрыемныя
і калючыя,
Цэлы час яны дакучаюць і дражняць.
У іх слабыя ацэнкі і многа заўваг.
Аднак ці яны не чуллівыя ўнутры?
Я думаю, што так!
Яны прыходзяць дадому
і там плачуць!
Ім хочацца ўсіх пужаць,
Але дзесьці ўсярэдзіне
Свавольнікі ведаюць...
Што не трэба быць
кепскім чалавекам...

## УВАГА КОНКУРС! № 11-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 22 сакавіка 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

З месца не рушыцца,
а на сабе многа
чаго зносіць.
М...

**Адказ на загадку № 7-2020: неба. Узнагароду, кніжку Пятра Васючанкі «Дзівоснае лета паноў Кубліцкага ды Заблоцкага», выйграла Мая Талалянская з Нарвы. Віншуем!**

# Маладая беларуская эліта

**Усённяшні час поспех — гэта вынік працы людзей захопленых і матываваных. Такімі напэўна з'яўляюцца вучні, якія сталі лаўрэатамі прадметнага конкурсу па беларускай мове. Усё-такі асобы, якія прынялі ўдзел у сёлетнім прадметным конкурсе, гэта тыя, якія вучацца не толькі дзеля дасягнення поспеху, але звыклай цікаўнасці да свету і беларускай мовы.**

У суботу, 4 сакавіка, у Гайнаўскім белліцэі прайшоў апошні, ваяводскі этап прадметнага конкурсу па беларускай мове. За школьныя парты села дваццаць чатырох вучняў з дзевяці падляшскіх пачатковых школ. Усяго можна было атрымаць 80 балаў. Каб стаць лаўрэатам, трэба было набраць прынамсі 72 балы. Ваяводскі прадметны конкурс па беларускай мове прайшоў у Ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, а яго арганізатарам выступіла Куратарыя асветы ў Беластоку. Сапраўды, падзея сур'ёзная!

Сярод вучняў былі асобы, якія ўпершыню прымалі ўдзел у конкурсе, і шматгадовыя лаўрэаты.

— Я ўжо ў чацвёртым класе атрымаў званне лаўрэата не толькі па беларускай мове, але таксама па расійскай, — адзначыў Кандрат Косцін з Пачатковай школы № 53.— Для мяне перш за ўсё гэта гонар, што я добра валодаю роднай мовай і правільна пішу.

Упершыню ў прадметным конкурсе па беларускай мове прынялі ўдзел вучні з Непублічнай пачатковай школы ў Залуках.

— Гэта магчымасць бліжэй пазнаёміцца з людзьмі, якія вывучаюць беларускую мову, — адзначыла вучаніца школы ў Залуках Юля Грэсь. — З людзьмі, якія цікавяцца гэтай краінай, народам, меншасцю, з якімі можна пагаварыць па-беларуску.

Вучні, якія сустрэліся ў Гайнаўскім ліцэі ў час прадметнага конкурсу, падкрэслівалі, што дадатковыя заняткі па беларускай мове не стамляюць. Наадварот, гэта шанц па-сапраўднаму набыць веды і развіць свой патэнцыял і свае здольнасці.

— Дзякуючы конкурсу я пазнаёмілася шырэй з беларускай літаратурай, — адзначыла Амэлька Федарук з бельскай „тройкі". — Проста самая падрыхтоўка шмат чаго дае. Тут ты матываваны, каб сесці і прачытаць твор, а ў іншым выпадку не заўсёды знаходзіш на гэта час.

Званне лаўрэата атрымаў таксама Максім, які сам родам з Беларусі, а да прадметнага конкурсу рыхтавала яго мама.

— У мінулым годзе мне не атрымалася, — сказаў вучань Пачатковай школы № 5 у Беластоку Максім Кавэцкі. — Я таксама дайшоў да ваяводскага этапу, але не атрымаў звання лаўрэата. Сёлета ўжо падрыхтаваўся лепш.

Напэўна такія конкурсы даказваюць вучням, што маюць яны ўплыў на рэчаіснасць, а гэта, што адбываецца вакол іх, з'яўляецца вынікам іхняй працы. Званне лаўрэата вельмі важнае для фарміравання ўласнай самаацэнкі. Менавіта іх, дваццаць чатырох вучняў, якія прынялі ўдзел у ваяводскім этапе конкурсу, Ян Карчэўскі назваў маладой беларускай элітай.

— Самае важнае — гэта паглыбленне ведаў і здольнасцей нашых навучэнцаў, — адзначыў настаўнік беларускай мовы і шматгадовы член конкурснай камісіі.— Гэта найбольш істотнае ў такіх конкурсах ці алімпіядах.

Віншуем усіх шаснаццаць вучняў, якія атрымалі званне лаўрэата! Тым, якія плануюць прыняць удзел у конкурсе праз год, жадаем самадысцыпліны і цярплівасці. Тут варта спаслацца на словы праф. Веслава Лукашэўскага: „Таленты ёсць пераацэнены, а майстэрства дасягаецца не талентам, а працай" („Па-за дыяграмай. Сакрэты паспяховых людзей" Малькальма Гладуэла). Незалежна ад поспехаў ці няўдач, кожны павінен вучыццца і ўдасканальвацца.

**Тэкст і фота**
**Уля Шубзда**

# № 11-20
## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7-2020:**
Сваяк, ямка, хвост, кактус, пыл, зіма, забава, боб, матуз, атака, рукаў. Бас, жывот, ах, бар, ява, замак, скіба, тамат, кавун, мат, Азія, клуб, снег.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Наталля Кадлубоўская** з Градалёў, **Міхал Крыніцкі, Барыс Ястшэмбскі** з Нараўкі, **Магда Драздоўская, Дагмара Краўчук** з Міхалова, **Юлія Дарпенская, Клаўдзія Ніканчук** з Нарвы, **Сара Марціновіч, Паша Пахвіцэвіч** з Орлі. Віншуем!

Len
Leśnik
Los
Osiedle
Min
Leonek
Okna
Jagoda
Alek
Krzak
Dziś
Ar
Marzenie
Oho!
Klon
Liczba
Jar
Smak
Jedzenie
Zakątek
Jerzyk

# «Гарадоцкія навіны» чытаюць 25 гадоў



■ Злева: Магда Лотыш, Дарота Сульжык і Юрка Хмялеўскі

Самае галоўнае — часопіс выходзіць і чытаецца. «Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны» неаднаразова ацэнены як самы лепшы сярод самаўрадавых тутэйшых, падляшскіх штомесячнікаў.

— Ініцыятарам стварэння гміннага часопіса ў Гарадку быў прафесар Лявон Тарасэвіч, — узгадвае запрошаны на сцэну на канец святочнага мерапрыемства 22 лютага тагачасны войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк, пры якім узнік часопіс. — Ідэя Лёніка, каб выдаваць „Гарадоцкія навіны" як газету двухмоўную, зазначаю, двухмоўную, трапіла на спрыяльны грунт. Але заслуга тут перш за ўсё Гміннай управы і Лявона. А пра двухмоўнасць «Гарадоцкіх навін» нельга забываць.

— Так, мы пішам і друкуем на дзвюх мовах, — сказала пасля яго ад пяці гадоў галоўная рэдактарка «Wiadomości Gródeckich — Гарадоцкіх навін» Дарота Сульжык. — Па-польску і па-гарадоцку. Так, як тут гавораць. Юрка, пакідаючы Гарадок, запрапанаваў мне, як тутэйшай і паланістцы, старой супрацоўніцы, рэпарцёрцы «Часопіса», заняцца рэдагаваннем нашага выдання. Не штука стварыць самому газету, а штука, каб людзі хацелі гэту газету рабіць. Працягваю работу сваіх папярэднікаў і хачу сказаць, што сапраўды мы вельмі ганарымся, што 25 гадоў нам удалося газету выдаваць, што яна мае многа чытачоў, што яе чытаюць. Бо калі б яе не чыталі, не куплялі — не было б яе.

На юбілей газеты прыбылі цяперашнія і былыя супрацоўнікі, мясцовыя, павятовыя і нават ваяводскія чыны і немалы тлум чытачоў. Апрача слоў падзякі, лістоў пашаны і дыпломаў, гучалі словы ўдзячнасці за вялікі ўклад для тутэйшай культуры і беларускай тоеснасці ды важную ролю часопіса ў самаўрадавым жыцці гміны.

Юрка Хмялеўскі, 20 гадоў рэдактар «Wiadomości Gródeckich — Гарадоцкіх навін»:

— „Гарадоцкія навіны" гэта арыгінальная газета, таму што яна адбудоўвала польска-беларускую тоеснасць. Пра беларускае аблічча гэтай газеты задбаў, між іншым, Лявон Тарасэвіч...

Юрку Хмялеўскага і Дароту Сульжык, рэдактараў „ГН", распытвала на сцэне новая дырэктарка Гарадоцкага цэнтра культуры — Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага Магда Лотыш. Юрка зноў меў з сабою чорную «тэчку» з прадметамі і матэрыяламі, якія характарызавалі пачатак працы і працяг яе над часопісам:






— Вось першы мабільны тэлефон — «цагліну» Centertela, першы нумар часопіса, які даў пачатак „WG-ГН" — «Голасу Гарадка», які выдаваўся Лявонам Тарасэвічам перад самаўрадавымі выбарамі ў 1990 годзе. Я прадстаўляю яго як «аванс дэкады — z redaktora na profesora", таму што якраз Лявон Тарасэвіч пяць гадоў стараўся заснаваць у Гарадку ўласную газету, а калі гэта ўдалося, вельмі аддана ангажаваўся ў яе выдаванне, запраектаваў яе графічны выгляд, дбаў пра здымкі і ілюстрацыі, пісаў таксама ў яе па-беларуску свае тэксты. Тэксты Лёніка былі перш за ўсё пра гісторыю Гарадка і Гарадоччыны, пачаўшы ад біграмаў яго заснавальнікаў і першых уладароў з роду Хадкевічаў. Першыя гады мы з Лявонам практычна рэдагавалі газету ўдваіх. Цэлы месяц збіралі матэрыялы і адзін вечар прысвячалі на склад газеты ў будынку Гміннай управы. Пасля Лявон засяродзіўся на сваёй мастацкай працы, стаў выкладчыкам Акадэміі мастацтваў у Варшаве, але ўвесь час успамінаў пачаткі выдавання часопіса як вельмі рамантычныя і нават піянерскі перыяд. Папраўдзе ў палове дзевяностых сталі паяўляцца меншыя гмінныя газеткі таксама ў іншых гмінах. Былі яны, аднак, і з выгляду, і зместу напалову чыноўніцкімі бюлетэнямі, брашурамі. На фоне гэтых няскладных часопісікаў «Гарадоцкія навіны» былі незвычайнай цікавінкай — вылучаў іх двухмоўны загаловак, цікавая графіка і выдавецкі прафесіяналізм... Рэдагаванне „ГН", асабліва ў пачатковым перыядзе, успамінаю сёння як вялікую самаўрадавую прыгоду. Праўда, я меў крыху досведу, быўшы з 1990 года рэдактарам «Часопіса». Рэдагуючы дваццаць гадоў гарадоцкую газету, на канец лучыўшы гэтыя абавязкі з пасадай дырэктара Гарадоцкага цэнтра культуры, перайшоў я таксама салідную школу гміннага самакіравання. Пільнаваў я аднак таго, каб гэтая тэматыка ў часопісе не дамінавала, прыкладваючы вялікую ўвагу да мясцовай гісторыі і культуры, якая абапіраецца на моцна ўкаранелую ў гміне беларушчыну. Натыкалася гэта на нейкі супраціў. Паяўляліся, напрыклад, пастулаты, каб артыкулы пісаныя па-беларуску былі таксама ў перакладзе на польскую мову. Тэкстаў па-беларуску амаль не было. Сёння ад той формулы застаўся хіба што толькі двухмоўны загаловак.

З хваляваннем і радасцю ўспомніў Юрка Хмялеўскі таксама той час пачаткаў рэдагавання і выхаду «ГН». Не было тады лічбавых фотаапаратаў, інтэрнэту. Лявон рабіў здымкі, трэба было іх праявіць, пасля сканіраваць. Рэдактары сядзелі ў будынку Гміны дапазна, часам да 22 гадзіны. Аднойчы Лявон забыўся, што меў забраць Юрку з работы, а войт, выходзіўшы, уключыў сігналізацыю. Толькі пасля поўначы Лёнік прыгадаў пра зачыненага ў будынку гміннай управы калегу і вызваліў яго. Іншым разам у час аднаго рэпарцёрскага выезду па гміне Юрка завіс у машыне на патрэсканым мастку ў Падзалуках. «Лёнік, ратуй мяне!» — заляманатаваў рэдактар да едучага ззаду мастака, але ён выскачыў з аўто і стаў пстрыкаць здымкі: «О, гэта будзе тэма ў газету!»...

— Гледзячы на невялікую колькасць беларускамоўных тэкстаў, «ГН» былі і ёсць выданнем беларуска-польскім, — адзначае першы рэдактар. — Узнікненне такой арыгінальнай газеты прывярнула карэнную тут беларускую тоеснасць. Яе беларускае аблічча замацавалася ў вялікай ступені дзякуючы менавіта «Гарадоцкім навінам». Нават сам тадышні войт Яўген Семянюк, даўшы разам з тутэйшымі раднымі згоду на выдаванне «Гарадоцкіх навін», спачатку не праяўляў вялікага энтузіязму да такой двухмоўнай газеты, сам меў даволі кволую беларускую свядомасць і, дзякуючы менавіта гарадоцкай газеце, з часам яе ў сябе разбудзіў.

Дарыюш Жукоўскі:

— Гэта наша газета — „Гарадоцкія навіны". Наша супольная гарадоцкая газета. Я рады, што ёй ужо 25 гадоў! Яна даўно паўналетняя!!! І, дарэчы, мне цікава, колькі ў нашай гміне равеснікаў нашай газеты? Людзей, з якімі яна заўсёды была. Сродкі масавай інфармацыі таксама фармуюць наша светаадчуванне. Нават гэты мясцовы, маленькі свет. Такім чынам, шмат у нас людзей, якія з-за „WG-ГН" нейкім чынам, праз інфармацыю, фармалізавалі вобраз свету. Далі інфармацыю. Я таксама належу да іх. Я рады, што такая газета ўзнікла! Дзякую стваральнікам і ўладам таго часу, што гэтая ідэя апраўдалася. Двухмоўны, польска-беларускі часопіс быў, напэўна, адзіным падобным на той час у Польшчы. Ці існуюць якія-небудзь іншыя мясцовыя газеты мясцовага самакіравання, якія выходзяць на мовах меншасцей, пражываючых у Польшчы? Я таксама дзякую ўсім рэдактарам за настойлівасць і самаадданасць (бо гэта не толькі праца). Добра, што ёсць так да сёння. Добра, што тэксты таксама часам друкуюцца па-беларуску. Дзякуючы гэтаму, мова нашых продкаў не загіне («Не пакідайце ж нашай мовы роднай, каб не памерлі!», Ф. Багушэвіч). Наша Гарадоцкая зямля багатая людзьмі, якія тут жылі і жывуць. Гэта для іх і будучых пакаленняў робіцца. У нашых суседніх гмінах няма такіх газет. У іх не склалася такая мадэль зносін са сваімі жыхарамі, як наша газета. Можа, ім з такімі рэдактарамі не пашанцавала? Я таксама хацеў бы падзякаваць асобам, дзякуючы якім гэта газета існуе. Аўтарам розных лістоў, вершаў ці нават звычайнай інфармацыі ці фотаздымкаў. Менавіта дзякуючы вам свет багацейшы. Я хацеў бы падзякаваць жыхарам гміны Гарадок за тое, што яны пастаянна зацікаўлены ў выдаванні гэтай газеты.

Падчас святкавання юбілею „Гарадоцкіх навін" падвялі вынікі журналісцкага конкурсу „Шануйма ўспаміны". Перамаглі ў дарослай групе Вера Тарасэвіч (I месца), Кацярына Рогач (II месца) і Янук Грыцук (III) месца. Сярод моладзі І прэмію здабыла Юля Грэсь з Залук, якую да конкурсу рыхтавала яе настаўніца Уршуля Шубзда, на другім апынулася інтэрв'ю Бартка Кахановіча (са спадаром Лукошыкам), а на III — успаміны Алана Пруса.

Мерапрыемства завяршыў канцэрт беларускага музыкі Зміцера Вайцюшкевіча, якога публіка доўга не адпускала са сцэны і падпявала вядомыя словы песень — на Гарадоччыне вітаюць яго шчыра і з радасцю ў КУЛЬТУРЫ, ці «за Юркам, ці Даротай, ці за Юркам або за Магдай».

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Арлянскія жыдоўскія могілкі

**Орлю, закладзеную звыш пяці стагоддзяў таму, заўсёды засяляла шматнацыянальнае насельніцтва. Цягам чатырохсотгадовай жыдоўскай прысутнасці ў Орлі больш за два апошнія стагоддзі складала яно выразную большасць насельніцтва мястэчка, каля 80%, а раней каля 50%.**



У Орлі пасля 17 верасня 1939 года пражывала 1450 жыдоў, а ў 1941 годзе, у пачатку нямецкай акупацыі, каля дзвюх тысяч. Амаль усе яны 4 лістапада 1942 года былі адпраўлены з Орлі ў нацысцкі лагер знішчэння ў Трэблінцы. Вымардавана каля дзвюх трэці жыхароў мястэчка. З большасцю іх ніхто не развітваўся, ніхто не аплакваў. Пра большасць іх няма каму аплакваць, бо ніхто не выжыў.

Знішчэнне жыдоў было таксама знішчэннем іх культуры, традыцыі. Забываць жыдоў дапамагала таксама таталітарная ўлада і камуністычная прапаганда ў пасляваеннай Польшчы; так было ўсюды, не толькі ў Орлі. Я тут займуся лёсам жыдоўскіх могілак.

У Орлі існавалі два жыдоўскія кіркуты — могілкі. Да нашага часу захаваўся адзін, г.зв. „новы", які мясцовыя называюць „кворэс". Жыдоўскі кіркут хутка запаўняўся, таму што згодна жыдоўскай традыцыі раз занятае для пахавання месца не надаецца для паўторнага пахавання.

Старэйшы кіркут, названы „старым", быў распаложаны ўпрытык з сінагогай, ад усходу; быў ён адкрыты мабыць з XVII стагоддзя, калі ў Орлі пасяліліся жыды, да пачатку або да паловы XIX стагоддзя. Калі быў ужо закрыты, у 1941-1942 гадах, загадам гітлераўцаў быў пазбаўлены каменных і пясчанікавых мацэваў. Пабітыя на кавалкі каменныя мацэвы былі скарыстаны на машчэнне дарогі з Орлі ў Вульку, у напрамку Бельска-Падляшскага.

Што важнае? Як расказвалі і падкрэслівалі найстарэйшыя арляне, на старым арлянскім кіркуце былі выключна каменныя і пясчанікавыя мацэвы, пры іх памяці не было высокіх намагільнікаў збудаваных з цэглы. Такі намагільнік, па-іўрыцку огель, гэта невялікі будынак, які ўзводзіўся над магіламі цадыкаў і іншых важных асоб. (У абароце можа знаходзіцца не адзін здымак огеля, дзе подпіс намякае, што гэта могілкі ў Орлі.)

Кіркут займаў значны абшар — ад вуліцы Жвіркі і Вігуры па амаль сённяшняе пажарнае дэпо, шырынёй амаль у сто метраў, мяжуючы з царкоўным полем. Пасля вывазкі з кіркута ўсіх мацэваў нямецкі акупант загадаў месца могілак заараць і абсеяць збожжам; яго абгарадзілі і сабралі ўраджай.

Пасля вайны, як расказваў народжаны ў 1947 годзе Міхал Карнееў, на месцы жыдоўскіх могілак мясцовы ЛЗС зладзіў спартыўную пляцоўку з бегавой дарожкай і пляцоўкай для скокаў, дзеля трэніровак.

Аказваецца, што не толькі дзеля трэніровак. Як расказаў мне народжаны ў 1938 годзе Міхал Кулік, было гэта бадай у 1949 годзе. У Орлю прыехала чэмпіёнка Польшчы згуртавання ЛЗС Кругулеўская з Варшавы. У Орлі стартавала ў бегу на сто метраў — на даўніх могілках. Паказала сваё майстэрства. Быў гэта нейкі злёт моладзі. Тут былі і баксёры, быў сапраўдны рынг. Паказалі ўсё, што магло зацікавіць моладзь; то ж пасля вайны нічога не было. Зрабілі такую паказуху, бо ў Орлі было вельмі многа моладзі, у тым ліку спартсменаў: Пішчатоўскі, Шайкоўскі... Нарыхтавалі такую бегавую дарожку, вельмі цікава было...

У 1960-х гадах Грамадская рада тэрыторыю даўніх жыдоўскіх могілак падзяліла на будаўнічыя ўчасткі. Атрымалі іх галоўным чынам тыя, што жылі па вуліцы Жвіркі і Вігуры, а іхняя пляцы сталі царкоўным участкам. У 1970-х гадах тэрыторыя даўніх могілак была забудавана жылымі і гаспадарчымі будынкамі; раней выдзелілі прылягаючую вуліцу Чырвонай Арміі — пры санацыі і зараз Пасвятная.

З успамінаў народжанай у 1905 годзе Наташы Камарчук: „Калі вызначалі новыя пляцы на месцы старога кіркута каля сінагогі, то са стараны вуліцы капалі чалавечыя чэрапы. Іду вуліцай, а раней нехта на астракол агароджы Казлоўскага налажыў чэрап. Шмат часу так было. То я пайшла і яго зняла". (Наташа Камарчук шмат гадоў служыла ў жыдоў, ведала жыдоўскую мову.)

### Новыя жыдоўскія могілкі

Другі, г.зв. „новы" кіркут, які мясцовыя называлі кворэсам, быў заснаваны ў пачатку або каля паловы XIX стагоддзя па загадзе прускіх або царскіх улад. Магілы відаць па захаванай яго тэрыторыі. Знаходзіўся ён на значным узгорку за Орляй, пры скрыжаванні вуліц Пасвятнай з Польнай (дарогай у Шчыты).

Паводле ўспамінаў найстарэйшых жыхароў, у час Другой сусветнай вайны немцы не нішчылі новага кіркута. Пасля 1945 года некаторыя з захаваных мацэваў былі скарыстаны навакольным насельніцтвам для будаўнічых патрэб.

Апошняе пахаванне на новых жыдоўскіх могілках эксгумаваных астанкаў жыдоў-партызан, выдадзеных немцам і забітых імі ў лесе за Шарнямі і каля Тафілаўцаў у чэрвені 1944 года, адбыўся каля 1947 года.

На кіркуце зараз захоўваецца каля сарака каменных мацэваў. Большасць з іх гэта каменныя вялікія валуны і адзін нізкі цэментны намагільнік; усе, кожны паасобна, я сфатаграфаваў, зрабіў план і дакументацыю.

Цяпер захаваная тэрыторыя могілак значна меншая за першапачатковую, у тым і тую з 1950-х гадоў. Я сам памятаю, як у 1960-я гады з паўднёва-ўсходняга боку могілак уладальнік суседняга ўчастка кожнай восенню даворваў да свайго поля паласу па некалькі метраў — дзёрну і пясчанага грунту пад пасадку бульбы. З боку вуліцы Пасвятнай на ўсходняй ускраіне могілак была звалка попелу і т.п. У 1974-1976 гадах з заходняга боку гмінныя ўлады занялі даволі вялікі шмат могілак пад новы профіль вуліцы Чырвонай Арміі (Пасвятнай), трасіруючы яе праз могілкі да дарогі ў Шчыты. Таксама ў 1970-х гадах і пазней з паўночнага боку ў „дарожнай паласе" праз могілкі на ўсёй даўжыні глыбока закопвалі камунікацыйныя кабелі, парушаючы пры тым людскія астанкі.

У 1990-х гадах тадышнія гмінныя ўлады не займаліся абкошваннем кіркута; зараз гэта адбываецца раз у год перад гадавінай вывазкі жыдоў. На могілках пасвіліся коні, якія такім чынам выконвалі ролю касілак высокага зелля і такім чынам мацэвы станавіліся відочнымі.

Восенню 2011 года невялікі фрагмент могілак з усходняга боку даараў да свайго поля селянін-вандал. Па тэрыторыі могілак, па магілах, зрабіў сабе даязную дарогу на сваё поле. Ёсць здымкі гэтага, а таксама відаць у прасторавай інфармацыі ў інтэрнэце.

Зараз каменныя мацэвы, большасць якіх перавернута, урастаюць у зямлю, зарастаюць травою і высокім зеллем. Найважнейшай справай, якая абумоўлівае ахову арлянскіх жыдоўскіх могілак і дасць магчымасць рацыянальнага вядзення парадкавых, кансерватарскіх і даследчых прац, было б выкананне агароджы. І нешта ў тым напрамку быццам зварухнулася. Захадамі яўрэйскай верніцкай гміны з Варшавы 16 снежня 2019 года са стараны дарогі была ўстаноўлена вялікая каменная мацэва з металічнай таблічай: „W tym miejscu znajduje się Cmentarz Żydowski". Мацэву выканала і паставіла на месцы вонкавая каменячосная майстэрня з дапамогай мясцовай землечарпальнай тэхнікі. Перададзены таксама паметкі для абазначэння на месцы граніцы могілак, якія ўстановіць геадэзіст.

На маю, і не толькі маю, думку, трэба было б устанавіць памятна-інфармацыйную табліцу ў месцы знесенага, зараз забудаванага, старога жыдоўскага кіркута пры вуліцы Пасвятнай каля сінагогі. Там у зямлі пакояцца астанкі даўніх жыхароў Орлі. Забываем пра людзей, а яны ж думалі, адчувалі; і таксама заслугоўваюць пашану.

Іудаізм вяшчае, што ў чалавека даўжэйшае і трывалае наканаванне і таму складаецца з матэрыяльнага цела і несмяротнай душы. Іудаізм паказвае, што зямное жыццё трэба лічыць пачаткам існавання чалавека ў перспектыве вечнага жыцця. Адначасна навучае так жыць, каб не баяцца будучага Божага суда...

Згодна вярхоўнаму прынцыпу, што калі хто пахаваны, то магіла павінна аставацца стагоддзямі непарушнай, бо цела пакойніка пераходзіць у прах і чакае прыходу Месіі, які прабудзіць яе для жыцця. Здараліся дазволы на эксгумацыю дзеля перамяшчэння астанкаў у сямейную магілу, а таксама калі магілам пагражала прафанацыя або падмыванне вадою...

Паводле патрабаванняў жыдоўскіх законаў, тэрыторыя могілак непарушная стагоддзямі, бо зямля, у якой пахаваны пакойнік, належыць яму навекі. Несапраўднае меркаванне, што жыдоў, асабліва артадаксальных, хавалі седзячых. На жыдоўскіх намагільніках можна заўважыць пакладзеныя невялікія камяні, затое рэдка бачны там кветкі.

Жыдоўскія могілкі, паводле жыдоўскай традыцыі, можна наведваць у будзённыя дні ад світання да змяркання. Нельга туды прыходзіць па суботах (шабас) і ў яўрэйскія святочныя дні. Мужчыны, якія наведваюць могілкі, павінны мець накрытую галаву. На могілках нельга ні есці, ні піць. Нельга хадзіць па магілах, хіба што няма іншага доступу да наведванай магілы.

Варта таксама ведаць, што жыды вельмі шануюць Тору, звод усіх Божых запаведзяў са Старога Запавету. Таму дзеля ўшанавання Божых слоў панішчаны скруткі Торы трэба пахаваць на жыдоўскіх могілках. Таксама літургічныя прадметы, якія ўжываліся ў сінагозе для малітвы, трэба пахаваць. У сінагогах знаходзілася памяшканне „геніза", у якім захоўваліся зношаныя рэлігійныя тэксты, філяктэры, мезузы і іншыя. Збіралі іх да часу ўрачыстага пахавання ў зямлі.

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

5☞ працяг

# Зімовае свята ў Нобелі

А мне прыгадаўся пакойны яе муж Васіль Андрэевіч. У той час, калі на пачатку дзевяностых гадоў адбудоўвалі спаленую камуністамі царкву, ён выконваў абавязкі старасты царквы. На тую адбудову хадзіў і я, адразу пасля таго, як вярнуўся дадому з вайсковай службы. Аднойчы Васіль Андрэевіч, убачыўшы маю цікавасць да царкоўных спраў, падышоў да мяне і ўважліва зірнуў з-пад калматых броваў з блакітнымі, як вада, вачыма і сказаў: „Быць табе, Паўлуша, бацюшкам”. Сказаў, што адрэзаў, таму што менавіта з таго часу я пачаў думаць над мажлівасцю служэння Богу ў царкве. А яшчэ зрабіў мне прароцтва: „Вось тут, побач з нашай царквой, дзе пахаваныя святары, якія служылі ў ёй, і табе будзе месца”. Чалавек не ведае, як жыццё можа скласціся далей. Не ведаю і я, які лёс будзе мне падрыхтаваны. А вось спачыць вечным сном на магілках каля храма ў сваёй вёсцы я не супраць!

Дарэчы, гэты невялікі некропаль каля царквы выглядае досыць цікава. На ім пахаваны святары — бацька і сын Варфаламей і Флор Пракаповічы, а таксама айцец Лявонцій Вайтовіч. А яшчэ сярод пахаванняў вылучаюцца магілы, у якіх вечным сном спачываюць парэшткі двух сыноў протаіерэя Флора Пракаповіча — Уладзіміра і Фаўста. Абодва былі вайскоўцамі, абодва ўцякалі ад савецкіх рэпрэсій, хаця належалі да супрацьлеглых апазіцыйных палітычных груп. Уладзімір Пракаповіч быў падпалкоўнікам арміі Украінскай Народнай Рэспублікі, а Фаўст служыў у расейскай белагвардзейскай. Пасля грамадзянскай вайны яны абодва, уцякаючы ад бальшавікоў, пераехалі ў міжваенную Польшчу і пасяліліся ў роднай вёсцы. Фаўст працаваў настаўнікам, а Уладзімір займаўся медыцынай, таму што па прафесіі быў ветэрынарам. Баба Маня Праневіч з вялікай удзячнасцю ўспамінае „дохтара” Пракаповіча, які выратаваў ад смерці яе бацьку і ўбярог іх маленькіх дзетак ад сіроцтва: „Бо ж цяжка ўжо тады бацька хварэў...”, — напаўняюцца слязамі вочы бабулі.

Надвор'е ў святочны дзень урачыстага саборнага набажэнства з нагоды чарговай гадавіны асвячэння адбудаванай царквы ў Нобелі было падобнае да таго, якое стаяла ў дзень асвячэння царквы далёкага цяпер лютаўскага дня 1993 года. На той службе быў і я. Яшчэ свецкім юнаком стаяў у баку ад іканастаса. Назіраў за святарствам, услухоўваўся ці не ўпершыню ў жыцці ў царкоўны спеў. Людзей прыйшло ў царкву шмат. А яна вялікая. Можа змясціць да паўтысячы чалавек, і нідзе не было вольнага месца. На вуліцы холадна, а ўсярэдзіне так горача, што аж задуха пайшла. Пабеленыя сцены пакрыліся царкамі вады... І вось у самы ўрачысты момант святочнай літургіі абрываецца і падае з пяціметровай вышыні жырандоля-панікадзіла. Памятаю, як ад страху заплюшчыў вочы, таму што за хвіліну да гэтага паглядзеў я на бліка ад панікадзіла і прамільгнула мне думка: „Яна зараз абарвецца”... Адкуль яна, тая думка, узялася ў мяне? Хто нашаптаў? Не магу зразумець дагэтуль.

У гэтым годзе святочнае набажэнства завяршылася хрэсным ходам вакол царквы. Парывісты вецер калыхаў харугвы, крыламі ўздымаліся рызы на плячах бацюшак, гулі над вёскай царкоўныя званы. Дыякан з Пачаева абвяшчаў просьбу да Бога, а хор спяваў у адказ. Па чарзе старшыя святары чыталі ўрыўкі з Евангелля і апырсквалі святой вадой свет з усіх чатырох бакоў. Такім чынам Бог блаславіў палескі край рукамі святароў.

Уся гэта казачна-загадкавая зямля з блакітным возерам і вёскай на яго берагах, са звілістай Прыпяццю, якая павольна нясе свае воды з Валыні да Нобеля, а адтуль і ў Пінск і далей да самога Дняпра. У гэты момант твары людзей асвечаныя, радасныя, пачуццё незямнога шчасця так і адлюстроўваецца ў кожным, на каго трапілі кроплі святой вады, у душу якіх упадае драбок Божага благаслаўлення. Нябесная благадаць сярод людзей прабывае зараз, хочацца верыць, да канца веку! А потым нас, святароў і матушак, чакала смачнае застолле, прыгатаванае парафіянамі і пададзенае ў сценах вясковай школы. А там гучалі словы прывітання, пажаданняў, падзякі і спеваў царкоўных і народных песень. Свята ў старажытнай вёсцы на мяжы ўкраінскага і беларускага Палесся адбылося.

Увечары я з'язджаю з роднага Нобеля дахаты ў сваё Марочнае. Прыгадаю гэта, калі зноў вярнуся ў вёску, дзе басаног бегаў амаль па кожнай сцежцы. А гэта павінна адбыцца ў чэрвені. Пяцьсот гадоў спаўніцца з часу напісання цяпер вядомага на ўсю краіну агульнанацыянальнага Нобельскага Евангелля. Павінна быць вялікае свята, таму што гэтая дата ўвайшла ў спіс нацыянальных святаў на 2020 год. Але гэта ўжо новая гісторыя. Гісторыя, якая ніколі не канчаецца ў палескім Нобелі.

А яшчэ на свята Стрэчання ў вясковым клубе, дзе гасцінна два гады таму сустракалі Ганну Кандрацюк разам з калегамі з газеты „Ніва” ў дзень прэзентацыі яе кнігі, у назве якой ёсць слова „Нобель”, сабраліся жыхары вёскі, каб павіншаваць самую старую жыхарку вёскі — бабулю Марыю Праневіч з яе юбілеем — дзевяноста пятым годам жыцця. І гэта таксама гісторыя, нічым не меншая, чым усе астатнія...

**Павел ДУБЯНЕЦ,**
**святар, краязнавец**
**Спецыяльна для «Нівы» з палескага Нобеля.**
пераклад з украінскай мовы
Ліза Ахроменка




http://uroki.movananova.by

Шэсць гадоў таму ў Беларусі ўзніклі невядомыя да гэтага курсы неакадэмічнага вывучэння беларускай мовы. Найбольш вядомымі з іх сталі „Мова ці кава” і „Мова нанова”. Тады „Ніва” пісала пра іх у сваім шостым нумары за люты 2014 года. У аналагічным дадзенаму артыкуле мы, усяляк вітаючы гэтыя моўныя ініцыятывы, тым не менш рабілі даволі сумны прагноз. „Пры ўсёй арыгінальнасці і пазітыве задумы вывучэння мовы праз такія курсы, усё ж такі не верыцца, што дадуць яны рады і як ідэя хутка не сканаюць. Бо веды, якія немагчыма прымяніць, як, напрыклад, зараз беларускую мову ў Беларусі, асуджаны на знікненне”, — распавядалася ў артыкуле шасцігадовай даўніны. Прагноз спраўдзіўся ці не спраўдзіўся роўна напалову, бо „Мова ці кава” сапраўды сканала ў тым самым 2014 годзе праз канфлікт паміж арганізатарамі на глебе ўспрыняцця украінскіх падзей, а вось „Мова нанова”, віртуальнае прадстаўніцтва якой па-ранейшым на **http://www.movananova.by**, не толькі жыве, але і развіваецца. І гэтае развіццё ідзе поруч з развіццём інфармацыйных тэхналогій і выкарыстання ўсё новых гаджэтаў з новымі магчымасцямі.

Калі зазірнуць на вытворнае вышэйзгаданай старонкі — http://uroki.movananova.by, то адтуль мы даведаемся аб магчымасці анлайн-вывучэння беларускай мовы праз дадаткі на смартфоне ці айфоне. «Сёньня многім прасцей вучыць мову ў дарозе з мабільнага тэлефону, планшэту. Мы даўно думалі, як гэту масу кантэнту прыстасаваць для больш зручнага вывучэньня», — распавёў Радыё Свабода адзін са стваральнікаў курсаў Глеб Лабадзенка.

Цяпер на сайце дзесяць урокаў (лекцый). Усе яны працуюць у тэставым рэжыме. Тэмы, якія прапануюць для анлайн-вывучэння стваральнікі „Мовы нанова”, даволі распаўсюджаны — „Вітанні і зваротны”, „Каляндар”, „Кватэра”, „Часткі цела і органы”, „Адзенне”, „Крама”, „Медыцына”, „Кавярня”, „Транспарт” і „Лаянка”.

Паводле Лабадзенкі, за першыя гадзіны пасля запуску, які адбыўся ў гонар сёлетняга Міжнароднага дня роднай мовы, што адзначаецца 21 лютага, карыстальнікі найчасцей заходзілі на ўрок беларускай лаянкі. Паколькі яна выклікае найбольшы інтарэс, то дадзеную старонку варта разгледзець больш уважліва. Акрамя лексікі і тэстаў, там ёсць і расповед пра жыдоўскі кампанент беларускай лаянкі. З гэтага тэксту можна даведацца, што з ідыш у беларускую мову патрапілі і набылі зніжанае значэнне наступныя словы: кагал, хеўра, хаіць/хаяць („ганіць”), пейсы (нечасаныя брудныя валасы), афэрдала/фэрдала (худы, замораны конь) і інш. Турэмныя жарганізмы фраер, шмон („ператрус”) і ксіва („пашпарт, дакумент”), паводле меркаванняў даследчыкаў, таксама паходзяць з мовы ідыш.

„Сінонімамі да слоў небарака, дурында выступаюцьнаступныяідышызмы:шлімазул (шлімазл), шлёма, мішугін, ламедуда, кепала (дурная галава). Малых свавольнікаў беларусы маглі называць габрэйскімі словамі шэйгец, бахур, ламперт, гіцаль, а дзеўку-падлетка, што хацела выглядаць дарослай — сікша. Дрэннымі, абразлівымі назвамі для жанчыны былі лахудра, лярва. Пра махляра маглі сказаць герц, герцык, а пра блазна — лабушнік”, — распавядаюць нам пра жыдоўска-беларускія моўныя асаблівасці стваральнікі „Мовы нанова”.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 120 гадоў з дня нараджэння Якуба ХАРЭЎСКАГА

Сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння беларускага ваяра-атамана, аднаго з кіраўнікоў антысавецкага руху супраціву ў Беларусі Якуба Харэўскага. Нарадзіўся ён у 1900 годзе, дакладная дата з'яўлення на свет невядомая, а яго імя і жыццё ахутана арэолам таямнічасці. Сапраўднае прозвішча Харэўскага — Новік, а нарадзіўся ён у вёсцы Харава (цяперашні Пружанскі раён), чым і тлумачыцца псеўданім.

У маладосці ў веку каля дваццаці гадоў Якуб далучыўся да беларускай партызанкі і неўзабаве ўзначаліў аддзел у Ружанскай пушчы, які ўваходзіў у склад партызанскіх войскаў БНР. Магчыма, якраз тады Якуб Новік і ўзяў сабе канспірацыйнае імя, утворанае ад назвы роднай палескай вёскі. Побач з Харэўскім дзеілі беларускія аддзелы Сяргея Хмары і атамана Рудога, а таксама аддзел вядомага савецкага чэкіста Кірылы Арлоўскага, які імкнуўся стварыць з суседзямі „агульны штаб”. У Сталавічах адбылася сустрэча. Але паколькі мэты гэтых атрадаў былі рознымі, перамовы завяршыліся не на карысць чэкіста, якому загадалі не пераходзіць лінію Віленска-Брэсцкай чыгункі.

У 1925 годзе, калі польскія войскі ўзялі ягоны аддзел у атачэнне, Харэўскаму ўдалося захаваць людзей, распусціўшы іх па хатах, а самому з фальшывымі дакументамі ўцячы ў БССР. Жыў тады ён на нелегальным становішчы, пакуль у 1937 годзе не змушаны быў перайсці мяжу ў адваротным кірунку, ратуючыся ад масавых арыштаў НКВД.

На пачатку 1939 года ў Баранавічах адбылася падпольная канферэнцыя былых сябраў Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Багаты партызанскі досвед атамана Харэўскага стаў зноў запатрабаваным. Ён атрымаў заданне рыхтаваць на Палессі на выпадак нямецка-польскай вайны паўстанне. У жніўні 1939 года сілы Харэўскага ўжо складалі 5 тысяч чалавек, але запланаваны на 18 верасня штурм Пінска атаман мусіў адмяніць, бо пачаўся паход Чырвонай Арміі на Польшчу.

У 1941 годзе Якуб Харэўскі браў удзел у партызанскай барацьбе ў Заходняй Беларусі, актыўна супрацоўнічаў з Палескай сечай Тараса Бульбы-Бараўца. Увосень 1941 года была заснавана Беларуская народная грамада, якая ўзяла на сябе каардынацыю дзеянняў беларускіх партызан. У 1942 годзе Якуб Харэўскі ўзначаліў „Лаву атаманаў” БНГ. Падчас адыходу немцаў ягоны аддзел імя Нябабы захапіў у Любяшове, на беларуска-украінскім памежжы, нямецкі арсенал. Да канца 1940-х гадоў аддзел паспяхова ваяваў з бальшавікамі на Берасцейшчыне і Піншчыне, даходзячы да Косава, Століна і Каменя-Кашырскага (горад на Валыні).

У 1949 годзе беларускаму атаману пасля цяжкіх баёў праз Тарэспаль удалося пераправіць сваіх людзей у Польшчу, адтуль у Чэхію, пасля ў Заходнюю Нямеччыну і нарэшце, у Бразілію. Там ён пасяліўся пад новым імем. Быў кіраўніком паўднёва-амерыканскага аддзела Саюза былых удзельнікаў збройнай барацьбы за вызваленне Беларусі. У 1967 годзе газета „Беларускі голас”, якую выдаваў у Таронта (Канада) былы паплечнік Сяргей Хмара, змясціла артыкул, дзе Харэўскі-Новік згадваўся як палеглы ў баях за Беларусь. Сам Харэўскі надрукаваў у адказ ліст, што чуткі пра ягоную смерць перабольшаныя. 2 красавіка 1968 года Якуб Харэўскі і яго ад'ютант Кастусь Гук загінулі ў Рыё-Грандэ (Бразілія) у аўтакатастрофе. Падобную методыку расправы з палітычнымі апанентамі тады па ўсім свеце шырока выкарыстоўвалі савецкія спецслужбы. Вельмі імаверна, што аўтамабільная аварыя была сплананаванай.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## За што плачу?

З пачаткам года ўступіў у сілу закон аб вывазцы адпадаў. У Чаромхаўскай гміне стаўкі павысіліся на сто працэнтаў. Дагэтуль я плаціў 13 злотых месячнай стаўкі селектыўнага збору. Зараз вымушаны плаціць 25 злотых. У падліку года складае гэта трыста злотых. Пражываю ў адзінокай гаспадарцы на вёсцы. Займаюся селектыўнай зборкай. Зялёныя адкіды выношу на звалку ў кампост. Выракляю ў месяц не больш чым мяшочак-два камунальных адкідаў вагой 50-100 кілаграмаў. Пытаюся затым чынушаў, колькі зможа ў месяц вырабіць васьмідзесяцігадовы старэча, няздольны да самастойнага існавання? Упраўляючыя хваляцца, што сёлетняя пераацэнка пенсій інвалідаў і асоб з абмежаваннямі найбольшая дагэтуль, бо складае 70 злотых. А я вымушаны заплаціць што месяц гэтых 70 зл. за тавар, якога не спажываю. А што з лякарствамі, платай за транспарт да лекарскіх спецыялістаў, аплатай за паліва, якое вымушаны купіць на зіму? Не напамінаю аб харчовых прадуктах, якія лічу неабходнымі для штодзённага існавання. А пры спрэчках упраўляючых аб прыбаўцы для асоб няздольных да самастойнага існавання ставяцца крытэрыі аб падаходным падатку 1600 злотых. Ці гэта мае быць сцяганосны лозунг упраўляючага прэзідэнта ў набліжаючыхся травеньскіх выбарах? Адкажыце, паважаны прэзідэнт, Анджэй Дуда!

**Уладзімір СІДАРУК**

1 ☞ працяг

## Расказы спадабаліся!

№ 4 у Гайнаўцы, Мая Шпілько з Пачатковай школы ў Чыжах і Эрыка Іванова з ПШ у Міхалове. Трэція месцы сярод старэйшых вучняў пачатковых школ занялі Зося Філіпюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы, Вольга Сідарук з ПШ у Навакорніне і Анджаліка Шпаковіч з ПШ у Белавежы.

Цікавымі атрымаліся выступы ліцэістаў. Гайнаўская белліцэістка Малгажата Галёнка захапіла сабраных сваім жартоўным аповедам «Акультурылася» і заняла першае месца ў ліцэйскай катэгорыі.

— Я падрыхтавала гумарыстычны расказ, паколькі жартоўны жанр спрыяе добраму кантакту з публікай. Сёння цікава выступіла многа расказчыкаў з пачатковых школ, што зрабіла конкурс займальным, — заявіла Малгажата Галёнка, якая ўдала вяла конкурс, заказваючы выступы паасобных удзельнікаў.

Сваім расказам зацікавіла публіку іншая гайнаўская белліцэістка Мартына Кердалевіч, якая заняла трэцяе месца. Пасля выступленняў расказчыкаў у мастацкай частцы выступілі белліцэйскія калектывы — заслужаная «Знічка» і новастворваны вакальна-інструментальны гурт «Беларуская гвардыя».

— Мы ў асноўным хочам спяваць па-беларуску і таму прынялі названне «Беларуская гвардыя». Сёння выступілі з рознымі творамі, але на свята 25 Сакавіка хочам запрэзентаваць беларускія патрыятычныя песні. Хочам развучваць таксама творы, якія будзем маглі спяваць па-за афіцыйнымі выступамі, — расказала скрыпачка Эва Кот. Разам з ёй займальна выступілі вакалістка Вераніка Пташынская, Андрэй Бабулевіч і Лукаш Граматовіч.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

## Сухія дрэвы ссеклі

Пра небяспечныя сухія прыдарожныя дрэвы я пісаў не раз. У тым ліку, між іншым, быў мой допіс „Прыдарожныя дрэвы засыхаюць" („Ніва" № 39 ад 29 верасня 2019 года). У ім я пісаў пра сухастоіны паабапал ваяводскай дарогі № 687 з Навасадаў Гайнаўскага павета ў Юшкаў Груд Беластоцкага павета цераз Нараўку. І ў Падляшскім праўленні ваяводскіх дарог у Беластоку прачыталі. Крыху часу прайшло, але...

Зараз ссеклі больш за 20 перш-наперш сухіх ліставых дрэў пры дарозе ў Наваляўкоўскім і Стараляўкоўскім сялэцтвах (гэта едучы з Бандароў у Новае Ляўкова). Найбольш іх было на двух тамашніх паваротах дарогі.

Варта дадаць, што пару дзясяткаў перш за ўсё соснаў і сасонак ссеклі таксама на абочынах на паваротах дарогі з Семяноўкі ў Тарнопаль, якая ад нядаўна стала ваяводскай артэрыяй. Цяпер тут больш бяспечна ехаць. **(яц)**

## „Ніва" пісала і...

У „Ніве" № 10 ад 8 сакавіка гэтага года быў мой допіс пад загалоўкам „Небяспечныя ўхабіны". На асфальтавай маставой павятовай дарогі з Нараўкі ў Ахрымы цераз Мінкоўку, Сушчы Барок і Падляўкова ўтварыліся небяспечныя ўхабіны. Найбольш іх было каля Мінкоўкі і на выездзе з вёскі Сушчы Барок у напрамку сяла Падляўкова. Яны — глыбокія выбоіны — пагражалі бяспецы ў дарожным руху.

Заметку ў беларускім штотыднёвіку „Ніва" прачыталі ў Праўленні павятовых дарог у Гайнаўцы. У гайнаўскім ППД працуе зараз дзелавіты дырэктар Мікалай Яноўскі (ён родам з Гайнаўшчыны) і вышэйзгаданыя кавалкі дарогі хутка адрамантавалі. **(яц)**

## УСПАМШЫ, УСПАМІНЫ...

Час ад часу перабіраючы карэспандэнцыю, што захоўваецца ў папках, узнавіла я ў памяці лісты ад цудоўнага чалавека — Георгія Валкавыцкага. Наша перапіска пачалася ў 2001 годзе, калі „Ніва" надрукавала мой водгук на яго кнігу „Белая вязь". Атрымаўшы ад аўтара ліст, была я вельмі ўсцешана: „Паважаная Спадарыня! Дзякую за ліст і цёплыя словы аб „Белай вязі". Цешуся, што кніжка Вам спадабалася"... „Дасылаю Вам апошнюю навінку (проста з друкарні), ад якой яшчэ не астыў, бо ідэя нарадзілася пад Новы год і ажыццяўляў яе ў тэмпе. Вясёлыя дзядзькі і гарэзная цётка. Гэта на падмацаванне добрага настрою. Усяго Вам найлепшага! Г. Валкавыцкі".

Былі ад спадара Валкавыцкага званкі з просьбай, па магчымасці, знайсці аднафамільцаў на Камянеччыне, якія б, напэўна, аказаліся яго далёкімі сваякамі.



У гэтых пошуках вельмі дапамог мне краязнаўца з Камянца Георгій Мусевіч. Перагледзеўшы ў мясцовай царкве кнігі запісаў, ён знайшоў імёны некалькіх чалавек, якія маглі б мець адносіны да роду Валкавыцкіх. Бо, па сцвярджэнні пісьменніка, „род наш з-пад Высокага, з Валковіч. У XVI стагоддзі быў там маёнтак братоў Валкавыцкіх, цяпер — вёска, на карце амаль злілася з Высокім. Род расцярушыўся. Магчыма, засталіся толькі родавыя кусты ў Белавежы і пад Нараўкай. Я, збіраючы матэрыял да „Белай вязі", шукаў і слядоў з Валковіч. Нічога талковага не атрымалася, толькі здагадкі. Позна пачаў шукаць".

Прачытала тады ж усё, напісанае таленавітым пісьменнікам, рыхтавалася да сустрэчы, але планы не ажыццявіліся... На жаль...

Апошні ліст ад спадара Георгія датаваны снежнем 2001года.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**

## 15.03 — 21.03

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш вельмі ўпарты. Асцярожна з фізічнымі нагрузкамі. 18.03. можаш даць сябе намовіць да канкурэнцыі на вышэйшую пасаду. Ад 20.03. сам сабе сур'ёзна не зашкодзь; магчымы гарачыя скандалы ў пары. Не спяшайся з дэклараваннем пачуццяў. Новае знаёмства развіцца маланкава! Будзеш ганарыцца сваімі дзецьмі. Папраўляй красу натуральнымі сродкамі.

**(21.04. — 21.05.)** Венера спрыяе любові і гармоніі. У сардэчных справах будзеш нерашучы. Удадуцца новыя праекты, а дзякуючы ім можаш здабыць вялікую папулярнасць. Быка-мужчыну зацікавіць жанчына разумная і незалежная. Будзеш умець пайсці на кампраміс. У працы і па-за працай усё будзеш думаць пра работу. З 18.03. адкрывай сваю дзейнасць і дамаўляйся на бізнесовыя размовы. Маеш цяпер выдатны густ.

**(22.05. — 22.06.)** Не зрабі фальшывага кроку. Можаш быць сварлівы і злосны. Знайдзі больш часу для сяброў. У любоўных справах не пытайся парад у сяброў. Знаёмыя, што абяцаюць табе залатыя горы, могуць нарабіць табе бяды. Еж цыбулю і часнок ды іншую гародніну, добра высыпайся

**(23.06. — 23.07.)** Удалы час. Але 15-16.03. разгарацца сямейныя анімозіі. Да 17.03. агорнеш сямейныя і хатнія абавязкі. На працы дасягнеш шмат дзякуючы іншым. З 18.03. магчымыя праблемы з суставамі, зайдзі да рэўматолага. Можаш закахацца ў кімсьці таямнічымі недаступным. Выкарыстай стары водпуск. Грошай, якія заробіш, не расходуй адразу. Не зайдай стрэсу.

**(24.07. — 23.08.)** Трапныя фінансавыя і прафесійныя рашэнні. Схочацца адмяніць месца, атачэнне, працу, расклад дня... У сэрцы таксама можна зрабіць рэмант. Не ўспамінай параз і даруй тым, хто цябе расчараваў. З 20.03. цяжка будзе цябе затрымаць у хаце, схочаш кінуцца ў вір кампанейскага і культурнага жыцця. Але з 20.03. могуць узмоцніцца розныя нямоласці, асабліва запальныя. Найгорш можа дакучаць страўнік. Перайдзі на лягчэйшую дыету.

**(24.08. — 23.09.)** Цешся тым, што маеш. Будуць магчымасці павялічыць маёмасць. Больш размаўляй з блізкімі. Звяртай увагу на свой жывот — у сакавіку ён слабы твой пункт, і скуру — будзе надта сухая. Схадзі да лекара са сваім пухнатым сябрам. З 21.03. будзеш цешыцца штораз лепшай формай. Дасканала справішся з ацэнкай сітуацыі, дойдзеш да трапных высноў. Выкажашся вялікай пунктуальнасцю і дакладнасцю. Вельмі асцярожна плануй выдаткі. І не стаў сябе ў залежнасць ад азарту!

**(24.09. — 23.10.)** Падумаеш, у што варта ангажавацца. З 20.03. у пашырэнні ўплываў паможа табе Сонца. Не тлумач сваякам і знаёмым, як маюць яны жыць. Не ганіся за касай — не страць чагосьці важнейшага! Засяродзіся на сваіх мэтах і планах. Твае дзеянні будуць паспяховымі. Будзе карцець цябе паставіць на адну карту ўсё, ды не ў кожнай сітуацыі прынясе гэта дабро. Вакол цябе спрыяльныя людзі. Але з 20.03. хтосьці можа аднесціся да цябе зняважліва. Правер свой слых.

**(24.10. — 22.11.)** 15-16.03. будзеш у дасканалай форме і дасягнеш значнага поспеху. З 18.03. (да 24.03.) не душы ў сабе злосці, бо можаш выбухнуць без прычыны. Удалыя імпрэзы. 17-21.03. удасца высветліць нейкія непаразуменні з мінулага. З 18.03. (да 24.03.) зваліцца на цябе заданні, з якімі не далі сабе рады іншыя; напружся, дакажы, што ты — спецыяліст па безнадзейных справах; паправіш сваю пазіцыю на рынку. Ад 20.03. вельмі пільнуйся, каб не набіць сабе гузака!

**(23.11. — 22.12.)** Жыццё цікавае. Сонца схіліць цябе да радыкальных крокаў — шкадаваць не будзеш. Не адкідвай новых знаёмстваў. Перастанеш пераймацца блізкімі, асабліва дзецьмі — кожны адказвае за сябе і мае права на памылкі. З сябрамі вырашыш пару праблем і паправіш кавалачак свету. Час спрыяе пошукам. Можа, займіся ёгай ці іншымі практыкаваннямі? Руш у пленэр.

**(23.12. — 20.01.)** На рабоце паб'еш канкурэнтаў, у сям'і выкажашся эмпатыяй. Быццё разам патрабуе кампрамісаў. Станеш вока ў вока з праблемамі і дасі ім рады. З 18.03. прападуць турботы ў пары. З 20.03. будуць правакавацца хатнія сутычкі; не мусіш мець там апошняга слова. На працы з-за тваёй імпульсіўнасці, калі нават будзе нейкі клопат, усё пойдзе к дабру. З 21.03. наведвай сваякоў. Не прастудзіся, не злаві віруса!

**(21.01. — 19.02.)** Старайся захоўваць спакой і ўнутраную раўнавагу. Можаш адкрыць інтрыгуючы сакрэты. Падтрымлівай партнёра. На рабоце тваю горшую дыспазіцыю не дай выкарыстаць канкурэнцыі; добра сарганізуй працу. З 21.03. (да 23.03.) будзеш мець геніяльныя ідэі — невядома, аднак, ці хопіць табе сілы і адчаю, каб іх рэалізаваць; спакойна! Больш варушыся. З 20.03. (да 26.03.) можаш шмат страціць з-за нерваў і недахопу самакантролю!

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** 14-17.03. можаш ажыццявіць планы, якія здаваліся быць малаверагоднымі. Інспірацыі да новых выклікаў і пошукаў. Прыязныя людзі. Рыбы з І дэкады захакаюцца з першага пагляду. На працы не будзь лішне сціплым. З 18.03. выкарыстай слабасць канкурэнцыі, павялічыш свае ўплывы. Выкарыстоўвай старыя добрыя хатнія метады пры нямоглацях.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. маці Авеля = 2 _ 11 _ 10 _;
2. сцаленне некалькіх дробных сялянскіх надзелаў дзеля ліквідацыі цераспалосіцы = 14 _ 15 _ 19 _ 20 _ 17 _ 18 _ 7 _ 6 _ 16 _;
3. пастух авечых статкаў = 5 _ 4 _ 3 _ 12 _ 1 _;
4. касіў канюшыну = 13 _ 9 _ 8 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 7 нумара**

Аса, аддзел, газ, звер, Іўе, лой, моц, пыл, сойм, цана, чума.

Рашэнне: **І ў маладой галаве часам знойдзецца спелы розум**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Ірэне Лукшы** з Гайнаўкі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | 17 | 18 | 19 | 20 |

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# (Ад)фальшаванне гісторыі

**27 лютага ў беластоцкай Ваяводскай управе была адкрыта адукацыйна-гістарычная выстава „Аддзелы Лупашкі”, прысвечаная Зыгмунту Шэндзеляжу „Лупашку”. Выставу зладзілі Аддзелавае бюро публічнай адукацыі варшаўскага Інстытута нацыянальнай памяці ў супрацоўніцтве з Агенцтвам унутранай бяспекі. Запрашалі на выставу падляшскія ваявода і маршалак ваяводства. Уладу прадстаўлялі міністр адукацыі Дарыюш Пянткоўскі ды віцэ-маршалак Станіслаў Дэрэгайла.**






■ Фрагмент помніка выклятым жаўнерам у Саколаве-Падляшскім

Спярша голас узяў міністр Пянткоўскі:

— Сёння мы абавязаны выказаць пашану тым усім жаўнерам, якія не маючы шансаў на перамогу, міма гэтага прадаўжалі змаганне. Камуністы цягам некалькіх дзесяткаў гадоў свайго праўлення прабавалі тых польскіх герояў прадстаўляць як звычайных бандытаў, прадстаўляючы іх як звычайных злачынцаў. І сёння ў нас перад імі доўг адфальшавання гістарычнай праўды, сказання, што яны былі героямі, былі жаўнерамі змагаючымися за непадлеглую Польшчу і мусім вярнуць памяць пра іх, бо камуністы прабавалі тую памяць закапаць запар са шматлікімі безыменнымі магіламі.

Станіслаў Дэрэгайла:

— Я ўдзячны гэтым жаўнерам за тое, што мог унаследаваць ад свайго бацькі гаспадарку. Увіце: калі б не было тых жаўнераў, было б у нас поўна пасляпэгеэраўскіх гаспадарак без таго поўнага краявіду нашай падляшскай зямлі, нашых сямейных сельскіх гаспадарак. За гэта я вельмі ўдзячны і трэба пра гэта гаварыць.

Кароткі даклад пра героя выставы зачытаў Лукаш Любіч-Лапінскі.

— Апошнім часам распальвае яго асоба страсці многіх людзей. Нарасло вакол яго многа міфаў; у адзін такі супольны мяшок пад назвай генацыд, злачынствы, укідаюцца ў інтэрнэтавых мэмах штораз то новыя здарэнні, якія каменданта нават не датычаць. Варта тады гэтай выставай прыпомніць яго постаць, яго дасягненні, а таксама развеяць некаторыя сумненні, якія паяўляліся, паяўляюцца і пэўна будуць паяўляцца ў чарговых месяцах...

Далей дакладчык коратка пазнаёміў з біяграфіяй свайго героя. Нарадзіўся ён у Стрыі недалёка Львова, а маючы 21 год пайшоў у афіцэрскія школы ў Астрові-Мазавецкай і Грудзяндзы. Пасля трапіў на Віленшчыну. Удзельнічаў у вайне 1939 года...

— Была гэта асоба вельмі дысцыплінаваная, кадравы вайсковы, які трымаў свае атрады ў вайсковым шныце праз цэлы час пакуль мог. (...) Я не прэтэндую да наймення нейкага вялікага знаўцы гэтай постаці.

Аднак прамоўца пайшоў далей, чым стэндавая выстава; закрануў ён тыя падзеі, пра якія на абагаўленчай выставе не згадвалася:

— Праз усе склоны скланяюцца назвы Глінцішкі, Дубінкі, Вілюкі, Патока. Трэба раз назаўсёды перасеч усе гэтыя спекуляцыі, бо гэта амуніцыя і зброя для ўсіх асоб, якія лічаць, што маёр не заслугоўвае годнага ўвекавечання. Першая справа, гэта падзеі на Віленшчыне. Там пад нямецкай акупацыяй паўставалі літоўскія фармаванні, які супрацоўнічалі з нямецкім акупантам. Яны ў значнай ступені адказныя за злачынствы на жыдах і на палках. Напружанне ў польска-літоўскіх адносінах набрыньвала; польскі бок ніколі не дазволіў сабе на якія-кольвек рэваншысцкія акцыі. Перапоўненнем чары горычы была акцыя ў Глінцішках, калі адзін з літоўскіх атрадаў дапусціўся 19/20 чэрвеня ў маёнтку Глінцішкі замардавання 39 палякаў. Там загінулі чацвёра дзяцей, жанчыны і старэйшыя асобы. Выклікала гэта агромнае абурэнне і раскрыла вочы Арміі Краёвай. Агромная частка членаў АК, якая была тады ў лясах і рыхтавалася да змагання за Вільню, рашыла помсціць сваіх найбліжэйшых. Тады маёр Зыгмунт Шэндзеляж „Лупашка” выдаў загад ліквідацыі асоб адказных за тое злачынства, тых літоўскіх жаўнераў, якія былі адказныя за злачынства ў Глінцішках. Яго загад не быў поўнасцю выкананы. Адной з такіх мясцовасцей былі Дубінкі, дзе асобы адказныя за замардаванне палякаў схаваліся. Аднак абурэнне яго падкамандных, якія страцілі сваіх найбліжэйшых, было вялікае — апрача мужчын дапушчана забойства жанчын і дзяцей. „Лупашка” фізічна там не быў, загад не ахопліваў цывільнага насельніцтва. Яго два падкамандныя, якія так па сутнасці па сваёй ініцыятыве дапусціліся забойстваў, былі адхілены ад далейшых „прац вайсковых”. Можа ўзнікнуць пытанне, чаму не прыгаворана іх да смяротнага пакарання. Быў гэта час, калі так сапраўды аддзелы АК, непакоеныя немцамі і саветамі, былі нішчаны і, магчыма, у той час выкананне смяротных прыгавораў на непасрэдных падкамандных некалькі дзён пасля забойства іх сямейнікаў не было добрай сітуацыяй. Былі яны пазбаўлены камандавання, пасля тыя два афіцэры не ўжываліся „Лупашкам” у дзеяннях. Атрад перасоўваецца ў напрамку Белавежскай пушчы, дзе ліквідуе агентаў бяспекі; а тут жа рэгулярна дзейнічае НКВД. Часці НКВД ездзяць па вёсках, арыштоўваюць акаўцаў, таксама асоб супрацоўнічаючых з падполлем. І маем таксама савецкую партызанку, маем членаў ППР, маем новыя ўлады, якія ўсталёўваюцца. Не вялікая тайна, што значная часць насельніцтва ўсходняй часткі ваяводства актыўна ўдзельнічала ў ставарэнні структур ППР, Управы бяспекі. Шмат тых функцыянераў паходзіла з розных мясцовасцей і некалькі такіх акцый „Лупашка” таксама мае на сваім рахунку. І тут у медыях паяўляюцца дзве назвы: Вілюкі і Патока. У Вілюках не згінуў ніводзін цывіль, вёска была спалена, адзінай расстралянай асобай быў супрацоўнік Управы бяспекі, на якога быў дадзены прыгавор. Аддзел прыбыў у Вілюкі, асоба зідэнтыфікаваная як працаўнік УБ быў застрэлены, а вёска за падтрымку камуністаў была спалена. Спецыяльна сабрана цывільнае насельніцтва, каб нікому нічога не сталася. Вёска была дашчэнту спалена за кару, каб не падтрымліваць камуністаў. Тое самае мела паўтарыцца ў Патоцы; было гэта ў палове мая 1945 года. Падобная акцыя адбылася; застрэлены быў Ян Бэкіш, працаўнік ППРу, супрацоўнік УБ і некалькіх іншых мужчын за супрацоўленне і супрацоўніцтва з савецкім акупантам. А некалькі дзён пазней прыбыў на вясковы сход патруль і заявіў, што мясцовасць падтрымлівае камуністаў. Людзі з гэтай мясцовасці, паводле разведкі АК, адказныя за грабеж маёнтка Геранімова і падтрымку УБ. 22 мая 1945 года — той сам сцэнарый што і ў Вілюках — сабрана было цывільнае насельніцтва, аб'яўлены ім прыгавор і паведамлена, што мясцовасць будзе спалена. На жаль, у гэтым выпадку так не ўдалося, аказалася, што тройка дзяцей і адна старэйшая асоба схаваліся ў адным з будынкаў і ў выніку пажару тыя асобы згінулі. І гэта ўсе цывільныя ахвяры, за якія адказны „Лупашка”. Варта прыгадаць, што ў ніводным з тых выпадкаў „Лупашка” фізічна не прысутнічаў у тых мясцовасцях, у ніводным з гэтых выпадкаў не было загаду мардавання цывільнага насельніцтва. І ў ніводным з тых выпадкаў не былі расстраляны цывільныя асобы. У апошнім часе ўзнялася бура звязаная з прысваеннем названня вуліцы „Лупашкі”. Гэта пэўна паслядоўнасць і таго, што, магчыма, „Лупашка” не быў належна прадстаўлены, так як на сённяшняй выставе, якая паказвае яго дасягненні. Няма шырэйшай інфармацыйнай акцыі, звязанай з камендантам: кім быў, што рабіў, што змагаўся, што быў катаваны, быў люблены сваімі падкамандными, што агромная частка жыхароў Падляшскага ваяводства бачыла ў ім свайго абаўцу. За адну з акцый летам 1945 года віталі яго з кветкамі ў некалькіх мясцовасцях. (...) Некалькі дзён таму прадстаўнік МЗС Беларусі Анатоль Глаз напісаў: „Сёння Лупашка, а што будзе заўтра — апраўдванне генацыду?”

Далей прамоўца пафантазіраваў пра спадзяванае абвінавачванне ў генацыдзе Інкі і Пілецкага, пра абвінавачванне ў халакосце „Гузара”.

— Чаму маем вуліцу Врублеўскага — студэнскага паўстанца? Яны ж таксама вешалі канфідэнтаў і шпіцляў у 1863 годзе. Пілсудскі — можа акажацца, што ў 1926 годзе сваімі рашэннямі адказвае за майскі загавор і смерць многіх цывіляў, звыш двухсот асоб, у тым няпоўналетніх. Можа трэба зліквідаваць і вуліцу ягонага імя?

* * *

Выстава налічвае больш за дваццаць стэндаў. Загалоўкі на іх даволі агульныя, хвалебныя галоўнаму герою. Пра менш хвалебныя подзвігі „Лупашкі”, пра якія згадваў у сваім выступленні дакладчык, на стэндах згадак няма.

З успамінаў відавочцаў падзей у Вілюках (за кніжкай „Час трывогі і надзеі”): „Жаўнеры крычалі: „Бярыце свае тлумокі і выязджайце да мацеры Расіі”. Пра такое на стэндах таксама згадкі няма.

З успамінаў відавочцаў падзей у Патоцы: „З хаты выйшаў „Лупашка” і зачытаў прысуд. Пачынаўся ён ад кацапаў і здраднікаў польскага народа, а канчаўся: зараз убачыце, як вашы домікі засвецяцца”. Магчыма, што не „Лупашка” быў гэта, бо ж ён усюды меў быць адсутны, але нехта з ягонага шныту. Здорава заяўлена дакладчыкам, што жаўнеры не расстрэльвалі цывільных асоб — быццам тыя застрэленыя ў Патоцы мужчыны былі ўзброенымі па зубы савецкімі акупантамі...

* * *

У выніку тэрору і намоў савецкіх агітатараў, пасля Другой сусветнай вайны з Беласточчыны выехала ў СССР пад сорак тысяч беларускага насельніцтва. Напэўна рашучая большасць іх падавалася туды ў выніку тэрору, раскручанага падобнымі да „Лупашкавых” баевікамі. Дапусцім — трыццаць тысяч. У прыблізнасці некалькі тысяч сем'яў. Некалькі тысяч сем'яў былі пазбаўлены сваіх спадчынных гаспадарак. Цікава, ці аб такіх хаця падумаў маршалак Дэрэгайла, пра іх гора і пакуты. І перад кім жа „Лупашкавы” жаўнеры баранілі ягоную гаспадарку?

Быццам „Лупашка” адсутнічаў у карніцкіх падзеях, здзейсненым ягонымі жаўнерамі, быццам не даваў злачынных загадаў; магчыма, што нейкая доля праўды ў гэтым ёсць, а магчыма, што гэта толькі прапагандысцкая выдумка. Але прысутнічаў там ягоны дух, ягоны „шныт”. А зараз, у той запаветнай „Лупашку” Польшчы, што рабіць раднаму, напрыклад гарадскому? Найлягчэй паказаць сваю актыўнасць прапанаваў названня новай назвай нейкай вуліцы. Можна зрабіць гэта тактоўна, са шнытам, а можна такой прапанавай і сыпнуць бліжняму солліў вочы. І гэтая выстава, на жаль, згадваную міністрам Пянткоўскім гістарычную праўду намагаецца перайначыць толькі дзеля таго, каб меналіта дапячы бліжняму.

А паколькі акцыя прысваення вуліцы імені „Лупашкі” была ў свой час зладжана таварышамі кіруючай нашым ваяводствам партыі, то на яе кліч на выставу з'ехаліся ейныя найважнейшыя ваяводскія палкаводцы. Дацъ загад, як мае выглядаць гістарычная праўда.

✣Фота і тэкст **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960